Скажы, нашчадак, чым мы страты сплоцім?
Зямным каханнем?
Дробная цана.
Здароўем? Што ж…
хварэць гатовы целам.
Але з цаной ці зроўніцца віна, —
Народ, як лес.
Ды колькі дрэў струхлелых!
Ёсць рэвалюцый чыстая пара,
Сланечнік золатам сцягоў гарыць над тынам.
Ці шчасцем проста мне ахвяраваць,
Каб ты, нашчадак, стаў мне верным сынам?!
Скажы — ты верны? Любіш свой народ?
Не зрокся маці?
Немаўля ўжо — гушкаў?
Каб ты смялей ішоў з нары нягод,
Праз сто гадоў я нараджу дачушку.
Дачушка — зорка, будучыні міг!
Як трудна будзе перабыць прагрэсы…
Але здаўна для ўсіх дзяцей зямных
Вісіць калыска ў сэрцы паэтэсы.

1984–2006

* * *

На пераломе раніц і начэй,
На перахрэсці звыклага і вечнага
Не таму ўсміхнуся, што лягчэй,
А таму, што час усё вылечвае.



# З РОДУ ЕЎФРАСІННІ
## Партрэты

### БЕЛАРУСКІМ ПАЭТЭСАМ

Алаізе Пашкевіч (Цётцы),
Ларысе Геніюш, Яўгеніі Янішчыц
прысвячаецца

О Ты, хто словам блаславёны…
Адзіна кім народ жыве…
Пералічы свае імёны,
Харугвы і крыжы свае.
Каб стаць безабароннай гэткай,
Што ад жыцця аж займе дых,
Каб, нібы ружу, спеў паэткі
Прынесці да званіц святых…
Каб зноў з тугой зямной аорты,
Дзе сок, нуклідны ўжо, бяжыць,
Дзе ёсць і першы, і чацвёрты,
Набрацца мужнасці — і жыць!
І ў ззянні слоў праз год прагоны,
Праз мір і войнаў каламуць,
Як кветкі, вашыя імёны
На шлях Айчыны пакладуць!

2004

* * *

Ў начным бяссонні чую крокі сэрца.
У боль прыходзяць родныя… З любві
І паўжыцця сувоем разаўецца.
…І так падняўся бохан на крыві!

Пячы сялянскай вычахне вуголле,
Хоць полымя ў душы здаўна гарыць…
Вунь фарысеі ў храме нашай волі.
У Беларускім храме…
Гандляры!..

* * *

Усё прадбачу — дні і ночы…
Усім прабачу — смех і грэх…
І добры спеў, і злыя вочы,
І гром вясны з дажджыстых стрэх…
І — цішыню, бы ў Бога ў вусе,
Каб зноў, праменнем у траве,
Шапнуць на вушка Беларусі:
— Твая дачка яшчэ — жыве!

2000

## АМАЛЬ БЕЛЫ ВЕРШ

Гэта толькі здалося,
Што я гляджу ў твае вочы…
Я — іду па дарозе ў няўмелую восень…
Шлях няблізкі… Заліты
зіхатлівай лістотай.
Ціха шэпчуцца дрэўцы… Ці мо сэрцы,
Што гамоняць у космасе ўпотай?

…Птушкі спуджанай — крык.
…Расцінаецца жах нематы.
Нечакана…
Нібы з зарападу,
нібы з пеpажытага…
Нібы падарунак —
маленнямі —
ты!

Гэта толькі здалося,
Што гляджу ў твае зорныя вочы.
Я спяшаюся зноў
У адчай безнадзеі і роспачы.
…Як аслепшы,
Вязе ў непазбыўнае восень
…мяне.

А дарога заліта блішчастай лістотай.
Толькі шэпчуцца дрэўцы
На мове параненых сэрцаў.
…Ці аб здрадзе змаўляюцца ўпотай
у прадчуванні майго
паспешлівага адыходу?

…І ўсё ж…
Гэта толькі здалося,
Што вязе мяне восень
з болю пякельнага ўпрочкі…
Што —
гляджу у лагодныя вочы,
Завеяныя залатою лістотай.
Ну вядома… Гэта толькі,
як калісь, здалося…

Дзесь ліхтар засвяціў адзінокі.
Лісце падае…
ў крокі
той палатнай сівой пекнаты,
Дзе ужо вывелі ўзор мне
павучыны глухой нематы,
Дзе штодзённа з «ніколі»
Аб'яўляецца ў сэрцы
Прысутнасць…

Гэта толькі здалося, што вязе мяне
З жарам калінавым восень.

Падымаюся.
Іду сама…
Спяшаюся,
Збіваючы локці аб нечаканыя вуглы,
Грукаю
скрываўленымі кулакамі
ў дзверы абрыдлай хлусні.
Малюся:

— Анёле мой! —
Хоць адну сустрэчу!
Аднаго, самага-самага…
Чалавека…
Падаруй… Анёле мой!
Злітуйся.
Хоць напрыканцы жыцця…

Гэта толькі здалося,
Што гляджу
у збалелыя вечнасці вочы,
Выціраючы воцатам вусны
няспраўджанага кахання.

Гэта толькі здалося,
Што коней на сцежцы жыцця
Зноў цугляе жарсцёй маёй
восень…
Гэта толькі здалося.
Гэта толькі здало…

З цішыні… З глыбіні…
З нематы…
Нечакана… Раптоўна,
як з выбуху роспачы…
Як з прытвору намоленага, —

Ты,
Госпадзі!..

1995–2006



## СВАБОДА

Свабода, ты не знацьмеш кратаў,
Хоць кроў твая плыве з нажа.
Быў Божы Сын на крыж узняты,
Нас распінаюць з-за крыжа.
Але пад небам хмарна-сінім,
Варожай зграі супраціў,
Усе мы — з роду Еўфрасінні
І ўсе да вечнасці ўзляцім.
Сябрыны гордае сумоўе,
У сэрцы — боль, у горле — крык.
Ўпіваецца ў народ дзвюхмоўе —
Змяі раздвоены язык.
Але пад небам хмарна-сінім,
Ваўчынай зграі супраціў,
На роднай мове з Еўфрасінняй
У вечнае, сябры, ўзляцім.
Радзіма! Ты не знацьмеш кратаў,
Хоць кроў твая плыве з нажа.
Быў Божы сын на крыж узняты,
Нас распінаюць з-за крыжа.
Свабода!

28.07.1997–2006

## ДА ПРАГРЭСУ

Прагрэс — дзіця маё, дзівак…
Мяшчанства вулічнай касметыкі! —
На могілках разбілі парк —
І зацвілі адразу ж кветнікі.
О, як там дрэвы ўгон раслі
З магіл рукамі і малітвамі.
Салдаты, слугі, каралі…

Цяпер усе ляжаць пад плітамі.
Чые вы?
Хто?..
З якіх дарог?..
Іду, а пад нагамі хроніка,
І віснуць мантыі эпох
На ліпах, як на вечных помніках.
Дагоняць раптам галасы, —
Рагочуць робаты блішчастыя:
Не для жыцця, не для красы
Еўропу запаўняюць свастыкі.
Я ў парк… Я разрываю час.
Кідаю сэрца над партрэтамі
Ўсіх тых, хто вернецца да нас
Палітыкамі і паэтамі.
Іх ачышчалі на крыжах,
Душылі турмамі і войнамі.
На шлюбных ложках і нажах
Іх сэрцы палымнелі гронамі.
Яны ўжо з Вечнае ракі, —
Забойцы бардаў, гранды, лёкаі,
Хто сілай браў мацерыкі,
Празрэўшы толькі пад рыдлёўкамі.
Празрэўшы раптам:
— Не забі!
Няма між нас на свеце лішняга.
Калі жывы — жыві, любі,
Любі зямлю, дзяцей і бліжняга.
Дай міру мір на сотні лет,
Кіруйся простай арыфметыкі:
О час, не падзялі сусвет,
Як і людзей, —
на кроў і кветнікі.



…Мой лёс, дзіця маё, прагрэс!
Я ў парк іду, жывой сагрэтаю, —
Да тых, хто дрэвамі ўваскрэс,
Да тых, хто стаў ужо планетаю.

## СОН АПАЛІНЭРА

— Імя тваё?
— Вільгельм… Апалінар…
— Род Кастравіцкіх…
— Вольны дух. Змагар.

Замрыце, людзь,
Ў гэты судны дзень
Праз вас пяском прасочацца акопы.
І толькі ён, паэта чысты цень,
Крыштальна ляжа пад снарад Еўропы.
О, як ахвяру ўдарыць землятрус.
Ляці, пііт!
Шпіталь…
Парыж…
Знямога.
І раптам — сон.
І ты ў ім — беларус.
Ці ж ад душы заслонішся эпохай?
Табе прысніўся нейкі хісткі плот,
За ім — стары. Стаіць на бездарожжы.
А над зямлёй такі густы чарот,
Якім не крыюць гмахі ў Рыме гожым.
Не бачыў славы гэты край хімер.
Ды прыпадзі да чуйных створак хвора, —
І ўздрыгнеш ты, наш брат Апалінэр,
Пачуўшы ўраз прызыўны рокат мора.
І мы — ішлі.
У войска… На Парнас…

Баліць радзіма ў целе пілігрыма.
Любоў ці войны…
Ненаежны час
Нас браў ад нас,
як беднага Багрыма.
Фатальны век. Фатальнасцю грашу.
Фатальна зноў унук зрывае дзверы.
І ўсё ж чаму шукалі вы душу
Ў чужых краях,
мае Апалінэры?
Сусветны спрынт упрочкі гнаў здаўна.
Чаму ж бяжым на край чужога света?
Наканаванне, воля ці віна,
Што мы — не мы
у нашых жа паэтах?!
Нясіце ж нас бялявінай бароў,
Накрыйце твары чыстаю паперай.
А сонца ўсходзіць над лясамі броў,
Высокае,
як лоб Апалінэра.

1982

## НА РАДЗІМЕ

Генрыху і Марыі Далідовічам

І зноў — пра лес, сатканы з непакою,
Дзе ходзяць травы ў пояс — басанож,
Дзе над маёй, здаецца, галавою
Ўзлятае срэбны салаўіны нож.

Наш салавейка! З гэткіх тонкіх крылаў!
На паўзямлі твой адбалелы лес.
І ўсё ж на вечнасць адшукалі сілу,
Імя якой нязменнае — прагрэс.



Харал душы і гралачка стагоддзяў…
Праз хмары дзён яшчэ туды крылай,
Дзе зорка Песні нашай узыходзіць,
Каб тут жа ўпасці знічкаю за край.

Зláві яе, ўратуй! І я з усімі
На мове продкаў праўду напішу.
Адзін для ўсіх… І не шкадуеш сілы,
Пакуль да дна не выплачаш душу…

## ГАЛІНЕ ШАБЛІНСКАЙ

Прызнаемся ў любасці жартам,
Пачнём дзівасілавы шлях,
І слова заблудзіцца раптам
У соснах і спелых вяках.

Дзесь горад з татарскага іга
Свой статак каменны пасе
І вуліц гарачая крыга
Кіёскі і гмахі нясе…

А нам — гэты роспач палёту,
Вясковы малюнак на ўсіх…
І кнігі, як смех і пяшчота,
Зрываюцца з сэрцаў людскіх.

1989

## ВАЛЯНЦІНЕ ТРЫГУБОВІЧ

Як часта з маскай адкрыцця
Нам развіналі меламаны
Агністы веер пачуцця…
А мы не бачылі падману.
А мы суцішвалі грамы
Нацыянальнага служэння.

Ці смешна? — праглі адраджэння,
І што ж цяпер спасціглі мы?
Ты хто, мой прычаканы друг?
Пагляд трагічны і праменны.
Калі гадоў шырэе круг,
Слабее вера ў перамены.
Я знаю, ты яшчэ не ты.
Але такія роднім сілы!
Каб выйсці раптам з нематы,
З той крыўды, што цясней магілы.

1998

## З ДУМКАЙ ПРА ТАМАРУ НУЖДЗІНУ

Я не баюся быць правінцыяльнай,
Неперспектыўнай і нацыянальнай,
З пракляццем вечным знішчаных бароў,
З кучомкай вёсак і пустых двароў.
Я не баюся дзёрзкаю праслыць —
Мы ўсе цяпер заложнікі прагрэсу.
Але збалелым сэрцам паэтэсы
Ад будучыні свет не засланіць.
Правінцыяльнай памяццю грашым…
Пад зоркай… той, чацвёрты… незаменны.
О, што далі народу нашы змены?
Што даў агонь? І што дае нам дым?..
І ў тленні продкі трапілі пад нож
Злачынных радыяцый раўнадушша…
І ўсё ж мы зрушым…
Правінцыйна зрушым
Граніт слупоў пачварных.
Долу…
Ўсё ж!

2004



## АДНАГОДКАМ

Сяргею Законнікаву

У радыусе спыненага круга,
Калі піла падлічвае гады,
Мы думалі, што маем хоць бы друга…
І вось ілюзій сплочваем даўгі.
Адчуўшы смак хвіліны і бяссмерця,
Спазналі ўдар крыла і забыцця.
І ўсё-такі… Сябры мае… Паверце…
…Не баймася… Ні смерці, ні жыцця!

## КЛЯТВА

Ліне Кастэнка

Маё Палессе, ты праплачаш вочы.
Мядовых соснаў тлеюць міражы.
Прырода, памудрэлая аднойчы,
Пералівае слёзы
у дажджы.
О колькі іх —
З грамамі і без грому, —
Вадою мёртвай і вадой жывой.
Над лёсам, лесам і аэрадромам.
Над намі ўсімі. Кожным і — табой.
Ідзіце ж, хмары, дождж нясіце краю
Для ачышчэння вечнае красы.
Мне з'ехаць нельга…
Бо не хопіць, знаю,
Для тых дажджоў якраз маёй слязы.

## ДА МОЛАДЗІ

Дачцэ Валянціне

Аэрапорт на ўскраіне планеты,
Дзе пад крылом — народаў галасы.
А мы ў палёт збіраемся на лета
Без шлемаў, без узлётнай паласы.

Пілот на трапе стомлена прыстане.
Звычайны твар! І ўсё ж — як адкрыццё.
Аэрапорт на ўскраіне чакання
З сакраментальнай назваю — жыццё.

Трывожна зноў. Хаця даўно знаёмы
З палітыкаю мёртвае пятлі.
Віраж і спуск… І ўрэшце —
касмадромы!
Ты зноў, як птушка, ў кулаку зямлі.

Аэрапорт на ўскраіне надзеі
Між гулу слоў і сэрцаў глухаты.
Аэрапорт…. І ўжо не знаю, дзе я,
Ужо не знаю, дзе ў сузор'ях ты…

## ЯГОРГІЮ НОВІКУ

З удзячнай думкай пра сям'ю Лянцэвічаў

Ты,
хто падыме пяро маё з рук аслабелых,
Хто народжаны пад аховай Святога Георгія
і святога Валянціна,
Хто з'яднаў дзве ракі
ў адну магутную слязіну радасці,
У якой Каваль агульнага радаводу
будзе адсёння
гартаваць дзіду мужнасці…
Хто стаўся нашчадкам маім і
Злучыў дзве эпохі ў адзін шлях да Госпада,
На якім усемагутны Каваль напаўняе
сэрца полымем
горняга,
Ты,
абраннік мужнасці і любові Святых…
Падаруй
і дзіду, і сэрца тыя,
у часіну пасталення,
Матухне продкаў сваіх —
Беларусі!

## ПРА СЕЙБІТА БЕЛАРУСКАГА

Нілу Гілевічу

Увесну шчыруе Душа
на нявораным цаліку,
Падняўшы сявеньку залатаслоўя
з каморы мудрасці.

Падае насенне на камень
адхлання айчыннага,
Каб выцягнуўся з безнадзеі
радаслоўны Дрэў Беларусі.

Улетку шчадрыцца Душа
на сцежцы паміж
валошкамі і залацістым жытам.
Спяшаецца…
Каб у верасні падняліся
На вогненным ручніку сініх пялёстак
боханы хлебу народнага
для сілкавання
знямоглага краю
ў час пагібелі…

Восенню ўзыходзіць Душа
ў захмар’е,
рассяваючы святло
над дзірванамі і сцежкамі Айчыны.
Пунсавее,
спальваецца,
самаахвяруецца,

Каб, барані Божа, не распачалася
зіма ў Беларусі
без Сонца…

## ЖЫВІЦЕ!

Івану Антонавічу Брылю

Іван Антонавіч!
Можна было б зноў успамінаць,
як узнеслі Вы некалі,
на пачатку пачаткаў,
Мяне
на арэлях бацькоўскай спагады…
Адтуль, з юнацтва,
няўмелага на ўдзячнасць,
Як і з сёння, вядома, прашу:
Жывіце!

Волат,
што годна трымае на плячах
Цяжар нацыянальнага адраджэння,
Сын Айчыны,
што не дае зарастаць і ўдзірванець
сцежкам беларускім,
Па якіх з такой гатоўнасцю
спяшаюцца ўгон нашчадкі,
часта няўдзячныя…
Жывіце!



Жывіце! Каб урэшце запытаць:
Хіба ў ілюзіях славы —
творчасць?
Хіба ў жоўці зайздрослівай
грамадзянская спеласць?
Хіба ў кублістасці месцячковай —
сапраўдныя еўрапейскія азнакі?
Хіба ў га́ласе пеўневым —
сонцаўзыход таленту?

Іван Антонавіч…
Жывіце!
Каб надоўга
жылі ў Вас і Вамі
Яе вялікасць Беларуская літаратура…
Яго велічнасць Беларускі народ…
Яе шаноўнасць Беларуская бясконца…

Жывіце! Каб разам з Вамі назаўжды
І — да…
і — пасля…
Жыла ў вечнасці наша Бацькавіна.

2006

## ШЛЯХ АРЫЁНА
Містэрыя

Адважны подзвіг за народ
Пясчынкай лёг на шлях свабод.

*З верша*
*Джорджа Гордана Байрана*
*«Смерць героя».*

П а э т

О мужны лік, ахвярны лік свабоды, —
Ад мройных песень, віселіц і ран…
Няма на свеце волі для народаў,
Ці гэта раб гаротны, ці тыран.

Цапныя псы, а можа, немаўляты…
Вякі, вякі, раскошы вам стае.
Мой пакербот, не кінь стыхіям брата,
Што так няўмела ветразі куе.
То я кую… І з бронзы, і з надзеі, —
Такія крылы ветру не падняць.
Наўкол цямніца. Хто, адкуль і дзе я?
Чые мячы на што падносіць раць?
І чый прысуд, сяброў альбо пачвараў,
Мяне падмяў, нібы Эгейскі вал?
Арлекінады, мімы і прымары…
Чые крыві ты прагнеш, карнавал?
Адрынь, цямніца.
Дзеці Альбіёна,
Сатрыце скруху з гордага чала.
Прачнуся зноў і свет раскрою стогнам
Сярод руінаў цемры і святла.
Ахвярны воблік шчасця і свабоды…
Няўжо Гаргонай станеш на зямлі?
Мой Арыён і песні-першароды
У рай ці пекла праз вятры плылі?
У лахманах, так горда-басанога
Дзяўчынка-мроя, страсць мая здаўна
Мяне вяла, здавалася, да Бога,
Прыводзіла да скрухі і віна.
Стаў я змаганню верны памагаты.
Руйнуй спакой, вясёлы пакербот!
Было: крычаў так голасна-зацята:
«Віват, кароль!» О, як мне крывіць рот.
«Віват, кароль…» Нясцерпна адзінокім
Тады я чуўся, эліны-браты…
Але цяпер не воклічам высокім
Нам разарваць турэцкія драты!
Не знішчыць краты песняй пастаральнай,
А толькі мечам… Рушся, пакербот!



Хто пойдзе ў бой за лёс краіны дальняй,
Здабудзе вольным родны свой народ…

Прымара Гарольда

Што чую тут? Бяссілае імкненне
Падняць свабоду элінаў з каленяў.
…Ёсць праўда нізкая, прыроўненая славе,
Той самай славе на канцы мяча,
Якой далёка, Байран, да вянца
Багінь бяссмертных, Музы і Палады.
Што праўдзе той да чалавечай звады,
Да гэтай бойні, скрухі, барацьбы,
Дзе пераможцы ў будучым — рабы?
Ты сам сказаў, таму Гарольда згода, —
Няма на свеце волі для народаў…

Паэт

Адны — рабы па мляўкай дабраце
І слабасці сваёй.

Прымара Гарольда

Але ж тыраны…

Паэт

Няма нікчэмней тых, чый хіжы меч
Здымае ціха брату голаў з плеч.
Качан з грады сваёй яму прыставяць з песняй:
Маўляў, пасля ён вольным уваскрэсне.
З такой пачварнай хітрасцю, Гарольд,
Ніякі не адродзіцца народ.
Бо колькі б голаў ласкай ні чмурылі,
Не будзе элін туркам дзеля хвілі.

Прымара Гарольда

Але не стане элінам і лорд,
Хто ўжо ўмакнуў пяро у тую славу,
Што нават клетку з іменем «народ»,
Як павуціну, рве… Далоў дзяржаву!

Ёсць толькі бездань, вечнасць і прастора,
Дзе зніклі нават заўтра, сёння, ўчора,
Дзе ёсць каханне вечнае…

П а э т

Распуста!

П р ы м а р а Г а р о л ь д а

О не, мой сэр, яшчэ жыве Аўгуста!

П а э т

Не руш, прашу. Двайнік, ты моцны тым,
Што ў вочы сэрца цягнешся, як дым.
Пякучы ён. О, як ён памяць коле
Такім густым, такім салодкім болем…
Цяпер не лорд я… Толькі карбанарый.
І слаўны тым, чым слаўны кожны парый…
Цяпер мячом паэзію сваю,
Як молатам, з нянавісці кую.

П р ы м а р а Г а р о л ь д а

Але ж Аўгуста…

П а э т

Соладка, паломнік. Не трэба зноў.
Не для прымар нам помнік…
Тых прывідаў… Халодных ці святых…

П р ы м а р а Г а р о л ь д а

Але ж Аўгуста…

П а э т

Забівае дых…

П р ы м а р а Г а р о л ь д а

Ў Алі-Пашы Аўгуста!
З прачных лап
Павінен вырваць ты каштоўны скарб.



П а э т

Я — карбанарый…

П р ы м а р а Г а р о л ь д а

Хлусіш ты, Джордж Гордан,
Такой душы — пакутнай, грознай, гордай —
Нашто кілзаць турэцкае сірока?
Адно чакае: ястраб клюне ў вока,
Каб асляпіць… Такую знаў пагарду?
Ці, можа, скажаш, вымаліш спагаду
У тых, чый лёс бароніш ты мячом?
Паэт Брытаніі, — дык стань яе ключом
Да тых дзвярэй, што нам адкрыюць свет.
Мы прагнем сэрцаў, земляў і планет.
Як абнавіцца тым агонь крыві.
Ад продкаў ты і продкамі — жыві.
Я быў таксама воляй апантаны,
На трон змагання быў каранаваны,
Шукаў збавення ад духоўнай смагі
І сынам стаў… О не, рабом адвагі.
О так, рабом… Сляпое кацяня.
Ўсе нашы войны, страты… Ўсё гульня
Для вечнасці, якая тым кіруе.

П а э т

А што ж Брытанія? Рашы задачу тую…
Як мне радзіму з вечнасцю звязаць?
Дзяржава ж — межы.
Вечнасць — крышыць краты.

П р ы м а р а Г а р о л ь д а

А хвалішся яшчэ, што стаў салдатам.
Ёсць ісціна: хто сілу духу мае,
То вечнасць тых у свой хаўрус прымае.
О карбанарый, сон гані з павек, —
Не пераможа турка сёння грэк.

Паўстань жа духам, Байран, геній долі,
Свой меч шпурні у тхло зямной юдолі.
Ўзляці над ёй і будзь, як я, шчаслівы,
Не блытай, Байран, музу і алівы.
І не падумай… Тым не створыш здрады:
Ты палікараў[1] стомленых сягоння
Пашлі на левы бераг Ахерона.

Паэт

Гарольд, маліся…

Прымара Гарольда

І з турэцкіх лап
Аўгусту вырвеш…

Паэт

Досыць! Мілы скарб,
Мой скарб з пачварай дыхае смуродам.

Прымара Гарольда

Не будзе волі тым зямным народам…

Паэт

Алі-Пашы ты служка… Зразумеў
Я твой прадажны і ліслівы спеў.
Двайнік, маліся, меч мой нагатове.

Прымара Гарольда

Не я, а ты заснеш у брудным рове.
Адумайся, хто сілу духу мае,
То вечнасць тых у свой хаўрус прымае.
О карбанарый, сон гані з павек,
Не пераможа турка сёння грэк.

[1] Палікар на сучаснай грэцкай мове азначае «дзяцюк»; ужывалася ў значэнні «воін».



Адкрыў мне Бог, што воі з Алазана
І без цябе зруйнуюць гнёт карана
Праз шмат гадоў!.. Калі ж, і праўда, зноў
Ты барацьбы запрагнуў, нібы сноў, —
Змагайся, бард! Але пяром і словам.
Вось барацьбы паэтавай аснова.
Няўжо узняць на ворага не ў сіле
Пяро сваё? Яно страшней за меч!

Паэт

Як мякка сцелеш… Прывід марны, прэч!
Не стане той паэтам для айчыны,
Хто ў цяжкі час хаваецца за спіны
І, нацягнуўшы гераічны німб,
Заве ў баі на мове мудрых рыб.
Я знаю слова сілу і бясстрашша,
Не бойкай дужы — ў слове я змагар.
Але крывёй сцякае воля наша,
Ці ж адмахнуся лірай ад ахвяр?!

Прымара Гарольда

І гэта геній? Жорсткаму сляпому
Не ліра будзе спадчынай, а кій,
З якім у храм паэзіі нікому
Без церняў шлях не ладзілі вякі.
Забудзь пра музу. Калі ж волю Бога,
Маіх парад не ўцяміш да канца, —
Рыхтуйся, Байран. Смерць — твая дарога!
Цяпер зрачэшся ціхага вянца?

Паэт

Бяскроўны храм, дзе мужнасць на каленях,
Нямала хлусаў прагне там збавення.
*(Прыслухваецца.)*
Але чакай… Ці чуеш ты? Вятрэц
З гары бяжыць там?

Прымара Гарольда

Не, мой сэр… Ганец!
Ён за парадамі з наіўнасцю юначай
Бяжыць сюды. Дык помні ўсё. Іначай…
Памрэш адразу ж, Байран. Дый Аўгуста…
Што з ёю зробіць туркава распуста!..
А ты — «свабода»! Што ёй сынаў скарб?
Самой бы ўцекчы з ненавісных лап.
Твой боль — чужы ёй.

Задыхаўшыся, убягае Э л і н .

Элін

Брацe! Браце, гора.
Алі-Паша, як спрут, нас цягне ў мора…
Ты чуеш, браце, як нясецца стогн?..
Там палікары. Бойка. Ахерон…
На левы бераг рэчкі ці на правы?..
Скажы, куды нам бегчы ад няславы?
О, хоць бы хвілю адпачыць Эладзе…

Прымара Гарольда

Лорд Байран, помні!

Паэт

Тут не месца здрадзе!
На правы бераг рушце. Чуеш?

Элін

Так!

Прымара Гарольда

Сябе ты знішчыў, Байран. Божы знак…

Паэт

Я знаю: смерць! Ды песняй пастаральнай
Мой меч не стане. Ў неба, пакербот!



Хто пойдзе ў бой за лёс краіны дальняй,
Здабудзе вольным родны свой народ…

Элін

Ён памірае. Гэты ціхі стогн…
Зямля Брытаніі… Ты зноў яго парог.
О, як Эладзе страшна стала, пуста…
Што будзе з намі?

Паэт
*(шэпча)*

Я любіў, Аўгуста…

1989

## ПАСЛЯ XIII З'ЕЗДА ПІСЬМЕННІКАЎ

Як шмат мы гаворым пра сваю любоў
да роднае мовы і народа…
Пра нацыянальную годнасць і лёс Айчыны…
Пра тое, адкуль прыйшлі і куды ідзем…

Як горача крытыкуем рэжымы і бэсцім
чыноўніцкую чэлядзь,
тут жа, дарэчы, сядаючы ўпоплечкі з ёю ў прэзідыумы…

О, як шмат мы гаворым!..
Хаця даўно пара было б,
не чакаючы папрокаў у славаблуддзі, памаўчаць!
Але так, каб усе пачулі, як грукаюць нашы,
працятыя джалам дзвюхмоўя, сэрцы!
Як скрыпяць, сціскаючыся, нашы кулакі.
Як крычаць нашы зведзеныя гневам вусны.

А мы ўсё гаворым, гаворым…
Хаця даўно — памаўчаць бы!
Але тымі важкімі, як камяні,
словамі гневу, што некалі кідалі нашы прадзеды
ў п'яных драгунаў на вуліцах Вільні і Менску…

Памаўчаць бы нам, але тым вострым, як меч продка, гневам,
што можа рассекчы любыя краты, каб нарэшце ўварваўся
ў беларускую крыжаўніцу вецер свабоды!

Тады, можа, нас нарэшце пачуюць. І зразумеюць,
як моцна захварэла нацыя беларусаў
на белакроўе анямення…
Якое зацятае маўчанне — на беларускім двары!
Якая смяротная пагроза —
над мовaю…
над народам…
над будучыняй нашай Айчыны!
І якая магутная сіла патрэбна,
каб усім разам нарэшце —
прачнуцца!

2001

**КАЛІ ПАМРУ, НЕ СПАЛЬВАЙЦЕ…**

Калі памру, не спальвайце, прашу…
А пахавайце ў дол маю душу,
Каб з продкамі яшчэ мільёны год
Мы на сабе трымалі свой народ.
І прыйдзе час…. І расквітнее тхло,
Калі адчуем прагу і святло.
І дрэвы зноў пашлюць нам карані,
Ў якіх атруты сённяшняй — ані!
Дажджы крануць нас праведнай слязой,
Пясок залашчыць матчынай касой,
Прадвесні ранак у густой расе
Нам спеў унукаў звонкі прынясе.
Тады паверым, што хлусні няма,
Што ў тым змаганне наша — нездарма…
І з продкамі праз тоўшчу многіх год
Мы зразумеем, што жыве Народ!

2004





# БАЛАДЫ ПАМЯЦІ

## А ПРЫПЯЦЬ НЕ СПЫНІЦЬ…
**(Пінск — 1240 год)**
Паводле народнага

Бацьку, Міхаілу Федосавічу

I

Здаецца, ноч і не была.
І цяжкай, змучанай хадою
З балота раніца ішла
Ў суседстве даўнішнім з бядою.
У плечы ёй царкоўны звон
Ўсё біў і біў… І з недавер'ем
Ступалі ногі, як праз сон,
У твань і ў гнёзды з мяккім пер'ем.
Чаўны зашыліся ў кусты
І бераг выелі да гліны…
І быў туман густы-густы,
Калі слабыя птушкі гінуць.
А звон стагнаў,
нясцерпны звон,
Такі, напэўна, мёртвых будзіць.
Пачулі ў ім і боль, і стогн,
Сагнуўшыся над броснай, людзі.
А звон трывожыў зноў і зноў…
О гора вам, браты, о гора!
Склікаў на сеч сваіх сыноў
Сярод балот узняты горад.
Чаўны ля берага плылі…
Грабцы паціху, нібы ўпотай,
Высока песню завялі,
Каб не параніць слоў чаротам.
Каб не трывожыць іх цяпер,
Каб не расла туга на вёсцы,
Дрымучую траву аер
Стаіла песня ў падгалосцы.



Зязюля, вылеці здаля!
Ці ты жыццё накукавала?
Ды песня птушку прыняла,
Нібы ў гняздо,
ў запеў схавала.
Зязюля шэрая, маўчы,
Над намі крыламі панікні,
Бо ў песню прыляцеў з начы
Крумкач стары
і грозна крыкнуў.
Бо сэрца боль,
туга ўзялі,
Калі праз песню нечакана
Рачныя хвалі паплылі,
Спаласаваныя мячамі.
Каля муроў,
ля пінскіх сцен
Шчапой рассыпаліся вёслы,
Грабцы ўздымалі светлы дзень
На спрацаваных косах вострых.

II

Касіянеры,
Ўперад, брацці,
Мы зброю вышай…
Як мазалі ў зямліцы-маці,
Наўкол узвышшы.
Касою сонца ўскінем.
Потым — да смерці ў госці.
Пакінем на зямлі гаротнай
Крывавы водціск.
Касіянеры!
Сэрца сёння не беражыце.
Ляцяць на нас чужыя коні
У чорным жыце.

У дыме воблакі, як стрэхі,
Прасторы — насцеж.
Касіянеры!
Гулкім рэхам гукніце шчасце.

III

Гудзела сеч —
і паляглі
Палешукі… Быў мяккі бераг.
Іх пальцы моцныя ўраслі
Ў зямлю карэннямі аеру.
Вось бацька з сынам моцна спіць…
Цяпер іх ад зямлі гаротнай
Не адарваць, не аддзяліць —
Праз іх прайшла вясной лістота.
А хто ўцалеў,
Хто яшчэ мог
трымаць гарачы меч рукою,
Пакінуў родны свой парог,
Пайшоў ад хаты над ракою.
У лес пайшлі расці і жыць
За сынам сын
і брат за братам,
Каб там над ханам учыніць
Між дрэў у гушчары расплату.

IV

Адна сляза,
Адна дарога,
Адно бяздонне для людзей…
Іх столькі мала,
Столькі многа
Жыло для праўды без надзей.





Адно славянскае прадвесне
Дало карэнне, каб расці,
Каб той мужыцкай, простай песні
Між вербалозаў расцвісці.
Каб слова выспела з любоўю,
Пад звон калосся,
голля хруст,
Яшчэ у сэрцы з першай кроўю,
Яшчэ ў зародку —
Беларусь.

V

Зямля мая,
задумлівая, белая,
Без цябе засохлі б ручаі,
Воблакі, што сонца абагрэла,
Рассыпацца ў попел пачалі б.
У гнёздах, што бахмацяцца на стрэхах,
Не ўздыхалі б сцішана буслы,
Баравіны вымерлі б без рэха,
Скамянелі без зярнят палі.
Не было б, мой белы край, спагады,
Хлеба і тваёй жывой вады,
Нават сэрцы, чуйныя да праўды,
Ачарсцвелі б у людзей тады.

VI

У нашых дрэў нязломны нораў.
Між голля выспеў неспакой.
Зноў хан ідзе, спяшае вораг
З душой, бы ятаган, крывой,
З зямлі яшчэ праб'ецца ў вёсны
З ігліцай цёплаю расток,
А покуль што аселі сосны
Па грудзі самыя ў пясок.

Тут шлях для ворагаў канчаўся —
Ажыны ногі абаўюць,
І нават корч стары прыўзняўся,
Каб кінуць ім у твар змяю.

VII

Зноў сеч гудзе… Плячо ў плячо —
Стаялі дрэвы ў самым пекле.
І вось рука з крывым мячом
Галіну ў ясеня адсекла.
Ён застагнаў.
Дубы плылі
Далонямі уніз, як цені.
І так адчулі пах крыві
Лісты, і травы, і карэнне.
Гулі у коней капыты,
Сукі успыхвалі, як свечы.
На грывы клаліся лісты,
Галінне падала на плечы.
Як птушка, летні дзень зачах,
Зляцеў за лес, як шэры жораў,
Быў попел у яго вачах —
О гора вам, браты, о гора…
Іржалі коні на ляту,
Губляліся у дыме чорным,
Упала сонца у ваду —
Дзіда пацэліла у горла.

VIII

Адступаюць паволі,
адно за адным,
У зямлю уваходзяць,
адно за адным,
Нібы сон у начах,
…далёка, як дым…



Горда гінулі дрэвы у краі маім.
Seклі іх па руках,
крыўды кідалі ў твар.
З птушанятамі падалі дрэвы
ў пажар.
Колькі гнёздаў стагоддзі
Развеялі ў дым…
Мужна гінулі дрэвы
у краі маім.
Запазніліся.
Хопіць,
пара і на скон!
Толькі голле расце,
зноўку чуецца звон,
Неадольныя ўсталі,
адно за адным,
Прамяністыя дрэвы
у краі маім.
Ўсё іх болей і болей.
Ад весніх надзей
Зелянее зямля.
Песня ў сэрцах людзей,
І гайдаюць аблокі
дно за адным,
Тыя дрэвы,
што выраслі ў краі маім.

IX

Быў час,
і моцныя далоні
Ламалі шыі ў ханскіх коней.
То сіл няма,
то зброі мала —
На дол нас, ясеняў, кідала.

Цякла для ўсіх адна рака,
Была адна, з мячом, рука,
І на усіх было, здаецца,
Адно, параненае, сэрца.
Мы не скарыліся ў той час.
Ці ўнукі памятаюць нас?
Ці ведаюць унукі сёння,
Як мы губілі ханскіх коней?
Як нам падмогі не хапала,
Як нас пад капыты кідала?..
І нават сонца над зямлёй
Цвіло, набраклае крывёй.

X

Загналі у лясы…
Было… загналі.
На паўдарозе людзі не прысталі,
Пайшлі ў карэнне, травы і галлё,
Між дрэў зрабілі новае жыллё.
І ўвысь ішлі і ўглыб —
куды не цесна,
Адна была, свая,
з лістоты,
песня.
Верацяном звінела ў голлях сонца,
Як нітка, дні цягнуліся бясконца,
Хоць біў струмень з-пад кораня спазнання,
Маланкам злым здзіўляліся сяляне.
Успыхвала агнём кудзеля хмар,
І плыў пажар з дажджом,
гудзеў пажар,
Аж покуль каласы дабра паспелі
І людзі хмары косамі пасеклі.



За зерне буйнае і за святую волю
Сваю зямлю любілі ўсе да болю,
Ад родных хат упрочкі не ўцякалі.

Драпежніцкія рукі адсякалі.
Змагаліся і гінулі ў баях,
Яснеў пад сонцам перамогі шлях,
А час — для нас…
А Прыпяць не спыніць…
«Ой да ла́таці, Божа, дай дажыць».

1970

## ЛІСТЫ ДА МАЦІ

Маці — Ганне Раманаўне,
ветэрану вайны,
вясновай настаўніцы

I

Вясна цяплом сваім атуліць
Бярозы светлую душу…
Я ліст вясновы да матулі
Імклівым раўчуком пішу.

Мой алавок звініць, спявае,
Закрэслівае злыя дні
І стрыжань-прамянёк хавае
У патаемнай глыбіні.

Здаецца ўсё такім нязвыклым
У вольным небе, на вадзе,
Над полымем шпачыных крыкаў
Зялёны дым угору йдзе.

Птушыны сум — гняздо радзімы —
З маленства ў сэрцы я нашу…
Пяром зялёнае шыпшыны
Я да матулі ліст пішу.

II

У вырай словы адсылаю,
У ранішнюю чысціню,
З трывогай галаву схіляю,
А ці спазнаюць вышыню?
І зноў зямля мая сагрэта
Цяплом буслінага крыла.
Пашлі маёй матулі, лета,
Праменьчык добрага святла.

III

А я заўжды ў чаканні, мама,
Зялёнай, гулкае вясны,
Калі ў красавіку растане
Снег перажытай сівізны.

Ляцяць імклівa між сінечы
Прызнання словы-жураўлі,
І сэрца птушанём трапеча,
Дагнаць імкнецца весні клін,

Заўжды жыву ў чаканні, мама,
Што ў вёсцы нашай,
у цішы,
Барвяны красавіцкі ранак
Пралескаю прарос з душы.

З-пад снегу пырснулі пялёсткі
Святла, любові,
дабраты…
Вясна здавалася б марознай,
Калі б, жаданая, не ты.

1976



## БАЛАДА ПРА «АСЕННІ СОН»

Мы выбуху таго не чулі,
Бо музыка мацней была
За посвіст нечаканай кулі,
За гром гарматнага ствала.

Даўно было…
Ці мо нядаўна?..
Аўто, кіруйся у аб'езд.
Па плошчы маршыруе спраўна
Ваенны духавы аркестр.

Ён грае вальсы, грае маршы…
Ды раптам выбухне, як стогн,
Апалых лісцяў учарашніх
Сон вогненны — «Асенні сон».

На полі франтавога бою
Свой сон апошні бачыць зноў
Трубач з прабітаю трубою
На скрыжаванні ўсіх франтоў.

Не пальцы нібыта ў знямозе,
Не рукі нібыта ў крыві,
А поўня лісцяў на дарозе
Ці ў лесе кіпень журавін.

А над забітым музыкантам
Схілілася
(Грамчэй, «ура»)
Адна, з пагонамі сяржанта,
Мелодыя, бы медсястра.

А над расхрыстаным маэстра
Ляцела праз гарачы град
Услед за жураўлямі песня
На мірны сённяшні парад…

Мы выбуху таго не чулі,
Бо музыка мацней была
За посвіст нечаканай кулі,
За гром гарматнага ствала…

1978

## БАЛАДА БЕЛАЙ ЛІЛЕІ

Цяпер на Захадзе ўсё мацней гучаць галасы, маўляў, калі б не было Жанны д'Арк, калі б яна не ўмяшалася ў натуральны ход гістарычных працэсаў, усё еўрапейскае развіццё пайшло б паіншаму. Гаворыцца гэта з выразнай крыўдай на Жанну.

*З часопіснага артыкула.*

Ідзе вясна па белым свеце,
І нам трывожна: недзе зноў
Палаюць будучыні дзеці
Ў напале атамных гадоў.

І птушкі, што цяпло прарочаць,
Буслы, вясеннія майстры,
Над гнездзішчам жыцця клякочуць
І крылы ўзносяць, як кастры.

Быў час —
прыйшла трывожна-смелай.
І хруснула нябёсаў стынь.
Пастушка з Францыі гарэла
У ціхай вёсачцы Хатынь.

Давілі тлустыя аблокі,
Як дым руанскага кастра.
«Баюся здрады я — і толькі.
Так жорстка — здрадаю караць!»

І там, дзе груд гісторый тлее,
Адкінуўшы кальчугу хмар,
Свяціцца белаю лілеяй
Сляза народаў, Жанна д'Арк.

Нашчадкі жорсткіх інквізіцый.
Фашысты… Неа… Гвалт пагонь…
Бягуць,
бы карнікі,
вазніцы,
А перад імі — белы конь.

Імчыцца ён пры ўсім народзе
Святой дарогаю ахвяр.
Ў сядле апаленых стагоддзяў
Крывінка болю,
Жанна д'Арк!

Малітва рук над галавою.
…А вы ў касцёр смяротны зноў
Сваю падкладваеце зброю
Замест
агню падданых дроў.

Прарокі неаінквізіцый.
На чыстым твары — важкі бот.
Са смерцю — здрадніцтву зрадніцца,
Не здрадзіш толькі ты,
Народ!
У цэнтры атамнага гета
Нясе
агнём абліты сцяг
Лілея белая планеты,
Няскораная
Жанна д'Арк!

1976

## БАЛЛАДА ФРАНТАВОГА МЕДАЛЯ

Ішоў Іван да Мар’і.
Такі ваенны шлях.
Медаль зямным паўшар’ем
Пазвоньваў на грудзях.
А той медаль геройскі, —
Такому кожны рад…
Не раз у пешым войску
Быў ранены салдат.
Было герою грэшна
Патайны голас чуць:
«Не лезь, ваяка, першым,
Не лезь, а то заб’юць!»
А ён спяшаў, пяхота,
«Касіў» і «малаціў».
У важкіх тупаў ботах,
Зямлю сваю круціў.
Край абароньваў нечы,
Франты надточваў дню…
А смерць крычала ў плечы:
«Ўсё роўна даганю!»
Прыйшоў Іван да Мар’і,
Адолеў доўгі шлях.
Медаль зямным паўшар’ем
Пазвоньваў на грудзях.
Сынок шчаслівы крадзькам
Штосьці позіркам прасіў.
І зняў медаль свой бацька:
— Вазьмі, брат, панасі!
І сын памчаўся, рады,
Праз грозныя гады.
З-пад хлапчуковых пятаў
Узвіўся чортам пыл.



А следам — гул снарадаў,
І грозны фронт,
І тыл!
…Вясною так нязвычна
Ударыў гром вайны
На ўзгорку ідылічным,
На міне ля сасны.
Дагнала смерць-нябога:
Плаці, раз бацькаў сын,
За мір і перамогу,
За той медаль адзін!

…Ды з бацькаваю славай
Усё бяжыць сынок
Па ўсёй зямлі крывавай,
Праз даль усіх дарог.
Праз боль акопных ранаў
І дымныя крыжы
Сын Мар’ін ды Іванаў
Усё жыццё бяжыць.
І звоніць гэтак шчыра,
І асвятляе шлях
Медаль,
паўшар’е міра,
Ў малога на грудзях!

## ЖЫЦЦЁ

Гэты век далёкі і драўляны.
Космас дрэў, пагоні і звяры.
Залізаўшы вогнішчамі раны,
Век павесіў зыбку у бары.
І, да сэрца горнучы зарану,
Над сыночкам, хрэснікам віны,
Маці склала ціха калыханку:
«Бацька твой не вернецца з вайны».

Хрысціянства змучылі праклёнам, —
Цудатворцы, смерды, каралі…
Над Руанам служкі ад амбона
На касцёр адступніцу вялі.
І, павесіўшы калыску паміж дыму,
Над дзяўчынкай, горлінкай вясны,
Прахрыпелі словы пілігрымы:
«Бацька твой не вернецца з вайны…»

Мой — дваццаты… Атамна распяты.
Кроў і чэрвень. Раны перамог.
У бінты ўціскалі медсанбаты
Боль франтоў, народаў і дарог.
І, павесіўшы калыску паміж ночкі,
Дзе чарнелі ў вёсцы каміны,
Галасіла маці над сыночкам:
«Бацька твой не вернецца з вайны…»

Я не знаю, за каторым гаем
Нам шапне сузор'е Арыён,
Што так страшна космас пераймаем,
Збыўшы травы мройныя і сон.
Гэты час — планет і нацый рынак,
Гэты век расхітвае званы.
Ціха, маці,
Ціха, напамінак…
Бацька наш…
не вернецца…
з вайны.

### ПАМЯЦЬ

Не абмінай мяне, трывога,
Не здраджвай толькі, памяць, мне,
Бо не канчаецца дарога
У партызанскай старане.



Пакліч, заранка, неспакойна,
У шыбу грукні сувязной.
Пупышкі тояць,
як абоймы,
Аціхлы неспакой
вясной.
А з сэрца, горача і колка,
Галінка вырвецца, як дрот.
І пырснуць лісцейка асколкі
Па белым садзе уразлёт.
Не забываецца дагэтуль…
Лязом здаецца маладзік.
Блакаднаю ляціць ракетай
Над нашай вёскай пеўня крык.

Бы перад светам на паверцы,
Сад вечнай памяці цвіце,
Суквецці цэляцца —
у сэрца,
І кожнае трапляе ў цэль.

* * *

Няхай наш свет не зрушыцца нічым,
Хоць мы свой лёс прагрэсам перагрузім.
О клоун славы, мы з табой маўчым
Пад барабанны гром старых ілюзій.
О клоун славы ў смокінгу любві,
Ці, як пінгвіну, страшна ўжо на свеце?
Замешаныя на чужой крыві,
Ілюзіі, вы нас перажывеце.
І ты смяешся, вечны чалавек, —
Не разгадаць нам цыркавых загадак.
Зрываюць слёзы з маладых павек
Ілюз'яністы тытулаў і здрады.

А вось — трукач. Паўславы — на вадзе.
Ну што маўчаць пра ўсё, што набалела?
Вазьміце скіпетр колішніх надзей,
Калі заснем — вы падыміце ўмела…
О не, не целы… Хоць палову страт.
Вы падыміце памяццю нятленнай
Той свет, дзе прадзед наш, як Герастрат,
І дзе сяло не зблыталі з арэнай.
Дзе нашых рук святая паралель
Яшчэ не стала развітальным крыжам…
Яшчэ ні Рым, ні Лондан, ні Марсель
Сябе не ачмурылі сном адрыжак.
Маўчыць трукач. Паўславы — у гадах.
Удар ці стрэл… Усё вядзецца лоўка.
Хоць паласне па людзях добрых страх,
Смяюцца людзі: цырк — перастрахоўка.
Ілюз'яністы стрэсаў і маны,
Ваш век мінае. Але як бясконца!
Няма — вайны? Галоўнае—вайны?!
Ці ж важна ўсё астатняе пад сонцам?!.

1984–2006



# ПЕРАСТВАРЭННІ

*Леся Беларуска*

# МАЛІТВА ДА КАЛЫМЫ

## ДА КАЛЫМЫ

Даль засцілае імгла…
Тут — ні хлябоў, ні любві…
Матухна-Калыма,
Не пагубі, не ўмярцві!

Месяц завіс залаты
Акрайчыкам хлеба ўгары.
Матухна-Калыма,
Голадам не замары!

Белая даль навакол,
Ты нас імглой агарні:
Ў небе —
крамлёўскі арол.
Матухна, абарані!

Магадан. Перасылка
1939

* * *

Зрадніцца ў час які змаглі
ікона і сякера —
у Крамлі?!
Пакуль сякера ўсюды скача,
Заступніца паціху плача,
на цвердзь зямную ў час пагрозы
гарачыя раняе слёзы.
…Слязінкі тыя бачыш ты
ў глыбінях вечнай мерзлаты.



## ЕЎФРАСІННІ ПОЛАЦКАЙ

Сыходзяцца шляхі, нібы ў крыжы,
твой золатам убраны, мой — «калючай».
Як справядлівасць адстаяць, скажы?..
Няўжо заўжды
вось так было балюча?
Два вобразы над Беларуссю
бачны мне.
Хіба сляпец не ўгледзіць іх у дыме…
Нас дзве сястры:
адна на Калыме,
другая — у Ерусаліме.
Я ўсё стрываю і, як ты, змагу
прайсці жыццё упэўнена і прама.
Ты мураваныя апекавала храмы…
Я ж душы тут,
як храмы,
берагу.

Лагер «Эльген»
1945

## РЭПЛІКА ТАЁЖНАГА ФІЛОСАФА

Сябру першародства,
Духу Продкаў прысвячаю

…То абыякавасці глетчар,
то льды сардэчнай мерзлаты.
Цішэй, мой сябра,
шчэ не вечар,
а наступленне цемнаты.

Мой сябра, Дух далёкіх Продкаў,
клянуся гонарам сваім:
калі мне час — у шлях кароткі,
расстрэленай ступлю па ім.

Апошні крок — з Радзімай мілай,
нібы з дзіцяткам, на руках…
Яе ўтрымаю над магілай —
Ёй жыць пасля мяне ў вяках.

* * *

Нас выбірайце ў лідэры, мужчыны!
У свеце Божым птушкі мы не скрыўдзім.
Час нас абраў. На тое ёсць прычыны:
Мацней — мы любім,
меней — ненавідзім.

За ўсіх дужэй, напэўна, на планеце
Жанчыны, — мы!.. І вам скажу цяпер:
Вось я, слабая… Ды ўва мне, паэце,
Здаецца, сіла — ў сотні атмасфер!

Хлусня наскрозь у казачных зачынах.
Няўжо хтось верыць у кітоў, як немаўля?
Не на кітах Зямля, —
а на жанчынах…
На нас спакон
трымаецца Зямля!

А я — жанчына, і ўжо тым прыгожая.
А я — пакутніца, дачка дабра ў вяках.
Невыпадкова на іконе —
Маці Божая,
Як Бессмяротнасць
з Дзіцем на руках!



* * *

Стану для Айчыны
звонкай одай,
закончыцца з няпраўдай судны бой.
Адна сям'я ўсіх нацый і народаў,
о Беларусь, —
то вобраз твой!

Лагер «Эльген»
1941

## У ЛЕСЕ

Невядомая для свету паэтэса,
дрэў паўночных гладжу я кару
казачнага лагернага лесу…
І з ахвярамі сякеры гавару.

Стойкай шахты стане дрэва-цуда,
альбо домам,
альбо мачтай карабля…
Ці тым самым нашумелым навабудам,
дзе шумела маладосць мая.

Лагер «Эльген», «Цёплая Даліна»
1946

## МОЙ СВЕТ

Яго чарнілі. Рабавалі. Гналі
На плаху. Наразброд.
На Калыму.
Аднак жа вышыню яго прызналі, —
І шанс быў дадзены у горкі час яму.
Каб выжыць і сабою тут застацца,
У кулаку свой лёс заўжды трымаць,
Па-над хлуснёй і смерцю зноў узняцца
І гонар свой, свой свет паратаваць.

## МАЛАДЗЕЧНА

Роднаму гораду маладосці —
з пачуццём замілаванасці
і любові — прысвячаю

Душою «маладой»
яго сам Бог пазначыў…
Маёй любові быў дзевяты вал,
калі ў пятнаццаць год
спатканне тут прызначыў
юнак, які мяне — пацалаваў.
І засаромеўся
тым сорамам адвечным,
які бароніць чысціню:
— Не руш!
Мой Маладзечна, любы Маладзечна!
Мая навек святая Беларусь!
Я вершамі ўтаймоўваю пачуцці
і аб табе начамі трызню тут:
баюся зноў чужацкай каламуці,
каб не прыстаў да нас
халуйскі бруд.

Салодкі сон душу маю мілуе,
збаўляе ад пакутаў і нягод.
Салодкі сон… О, як мяне цалуе
той хлопец у мае пятнаццаць год!
А хлопец той — смуглявы і чубаты…
Баюся прачынацца, не хачу:
бо раптам то — не ён,
а… Век Дваццаты,
я ж — Беларусь,
і я даўно маўчу.
Зноў засаромелася стоена-бязвінна
і апрытомнела тады мая душа…



Як доўга мы стаім пад зорным ліўнем,
Як хораша блішчыць ля ног
Уша…
Рака надзей адвечная блішчала,
глыбіннай моцы музе надала,
і каб зямля мая
паэмай стала,
і каб праз пекла я прайсці змагла.

## ВЫШЫНЯ

Вышынёю
ў небе ганарацца
зноў арлы
над зонаю калек.
Але нават птушкам не зраўняцца
з вышынёй тваёю,
Чалавек!

## ЧАМУ?
Песня трыццатых гадоў

Ноч сумёты высокія лепіць,
З гора ноч звар'яцела сама.
Вось сумёты…
А бачацца — склепы.
Чорным крэпам злятае пацьма.
Над баракам — уснежаны вецер
Будзіць горкую памяць паўстаць.
Нібы плачуць галодныя дзеці,
Нібы сіраты плачуць, не спяць.
Чую голас дзіцячы пад ранак,
Працінае трывожна пацьму:
«А куды павялі цябе, мама,
Пад вінтоўкай, у ноч, і чаму?»

Чорна-мёртвая панарама.
Боль зямны адплывае ў пацьму.
«І чаму?» — Не адказвае мама…
Можа, скажа Масква?
Дык — «чаму?»

* * *

З гэткай вераю ў бяссмерце —
смерць не страшна.
І перад вачмі ўсяе брыгады
стане ўпэўненай походка і адважнай, —
калі буду адыходзіць
у манады.
Палічыце гэты верш маёй распіскай:
чаша выпіта да дна — жыцця і праўды.
І труна падасца лёгкаю калыскай —
адыходжу я з усмешкай
у манады.

І якая б ні была ў Айчыне ўлада,
хай прызнае тая будучыня ў скрусе:
…наша Леся адышла сама ў манады,
ворагам сказаўшы:
«Не здаюся!»

Лагер «Эльген»
1948

* * *

Не абдыме ніхто неабдымнага, —
Сведчыў так усезнаны Пруткоў.
Толькі я — сведка сплаву трохмернага:
Дурняў,
«мудрых»,
І вечных рабоў.



## ДАЧЧЫНОЕ

Роднай Беларусі

Я — вораг гвалтоўных акцый,
хлусні і пагардлівых жэстаў.
Я — часцінка цывілізацыі
ад Полацка і да Брэста.
Быў адказ мой заўжды: «Не здаюся!» —
хаця вораг змушаў да маны.
Вочы маці маёй Беларусі…
Палягчалі пакуты яны.
Давялося мне ў тыя гадзіны
і дачкой, і байцом яе стаць.
Беларусь, мы з табою адзіны:
па дыханні
і твары
нас можна пазнаць.

1939

## Я СЁННЯ ІНШАЯ

Я сёння іншая, бясспрэчна,
мяне з рудой век пераплавіў.
Ды родны горад Маладзечна
мацней, чым я,
ніхто не славіў!
Мая душа з любві нямее…
Край продкаў мілы, я клянуся:
так аніхто любіць не ўмее,
як я, каханай Беларусі.
Адкуль бярэцца толькі сіла?
Сцярплю ўсе мукі і
ўсе болі.
Дзеля Айчыны маёй мілай
ступлю у полымя любое.

Лагер «Эльген»
1945

* * *

Наперадзе — полюс усіх халадоў,
Ахоцкае мора — пазадзе.
Між імі —
адно мая маладосць
з замерзлай слязой у паглядзе.

Бальніца «Левы Бераг»
1944

## ЦІХА СПЯЮЦЬ ПРА НАС

Скажам — спявайце! —
цудоўнай парой напрадвесні.
Свайго дачакаемся часу і мы…
Калі будзе свята,
свята лагернай песні,
думак і мар, і надзей Калымы…
Ціха спяюць пра нас.
Скрытна і скупа.
Колецца праўда,
як грані штыхоў…
Толькі з-пад снегу чарнеюцца трупы,
нібы шматкроп'е
Песні вякоў…

Бальніца «Левы Бераг»
1945

## БЯССОННІЦА

Пакутую ўспамінамі да золку:
…будавалі светлую вясну…
Праўду папрашу, нібы сяброўку:
«Ляж са мной, гадзінку мо засну».
На зямным абледзянелым шары
Маразы…
Баракі…
Людзі спяць…



I гараць у душах зноў пажары
…помсты.
I нічым іх не суняць!

Лагер «Эльген»
1942

## У ЛАГЕРНЫМ БАРАКУ

Пішу і крэслю… Не, усё — не так!
«Не сатвары куміра», — помню гэта.
Я апяваю лагерны барак,
а сопку называю цэнтрам свету.

Ноч. Дзверцы печы-бочкі адчыню,
гараць, гараць, святло ліюць мне дровы.
Бярвеннні пад паэмы заганю,
а потым узвяду на іх і словы.

Смалой сасновай мой прапахне верш.
Пачатак свету бачу я нанова:
сляза жаночая… Сляза была найперш…
I з той слязой пакутліваю — Слова!

З параненай душой няветлы свет.
Сяброўкі спяць… I брыгадзір Алена
(куміра сатварыў усё ж паэт!)
спіць у цянётах зла — ўвесь боль «Эльгена».

А над тайгою выспявае гнеў
і пагражае катам ён трывожна.
…Цвік забівае хтосьці ў ногі мне,
і ў галаву…
I выцягнуць не можна.

Напоўніць сэрца мне трывожны звон.
Мы ўсе ў цвіках наскрозь — і я, і строфы!
Укрыжаваны лёс людзей спакон.
I ўся тайга — як грозная Галгофа.

«Цёплая Даліна»
1947

* * *

Да братэрства ўсіх народаў я імкнуся,
духоўных вылюдкаў зрынаючы у прах…
Мяне ў Айчыне
катавалі беларусы.
І ратавалі латышы —
у лагерах.

## МНЕ БАЛЮЧА

Прыняла я свой боль немінуча.
Зону голай рукою не зняць!
Як баліць мне!
О, як мне балюча!
Анікому той боль не суняць.
Меладычна бакалы і шклянкі
недзе ў шумным застоллі звіняць.
За іх звон трэба нам, паланянкам,
вечна ў снежных сумётах ляжаць.
Хай сяброўкам
па той бок «калючай»
шчасна будзе і жыць, і спяваць…
Як баліць мне!
О, як мне балюча!
І нікому той боль не суняць…

Лагер «Эльген»
1948

* * *

Бяссонніца крычала:
«Майна!», «Віра!»
і памяццю паліла, як агнём.
Каб свет паратаваць, што можа ліра
Між чорнай ноччу і холодным днём?..



Барак начны — адзінства ценяў, грацый:
нямала з прыіскаў прыходзіць дзівакоў.
А я ўсё думала аб ратаванні нацый
усіх часоў і ўсіх мацерыкоў.

І крыжыкам, і гладдзю сум расшыты…
Схуднелая…
Дзе тая прыгажосць?
Здаецца, школьны спісаны ўжо сшытак.
І ў ім усё, што мной пражыта, ёсць.
У ім усё: «учора», «сёння», «вечна»,
і нашых мрояў
воблак залаты.
Я запісала ўсё — душой,
і неаспрэчна! —
тут,
на скрыжалях
вечнай мерзлаты.

## ВЕЧНАЯ МЕРЗЛАТА

Не толькі ля Полюса холаду,
не толькі ў нябёсах пустых…
Яна —
расстраляная змоладу —
у сэрцах
холодных
людскіх.

Лагер «Эльген»
1946

## ЭЛЕГІЯ

Аляксею Марозаву

Я часта не валодаю сабой.
Сябе наяве… мёртвай адчуваю.
І толькі,
Каб сустрэцца нам з табой,
Жыву,
І ўсе пакуты тут трываю.
З мяне хацеў вяроўкі злыдзень віць,
Што прыткі на любое катаванне.
Марозавых — марозамі ўмярцвіць! —
Яго прысуд для нашага кахання.
…Вось мой барак. І наледзь на акне.
Дзесяты год я тут, у льдах, закута,
як Праметэй…
Ды веру, што мяне
Гефест пазбавіць — скончыцца пакута.
Насенне кветак ўсё-ткі зберагла!
І палячу к свайму я Аляксею,
І вынішчу дашчэнту кветкі зла,
І кветкі добрыя ў палях пасею.
«Ты — малайчына!
Кветкі зла — губі,
Дабра сей кветкі.—
Скажа ціха эра. —
Дзеля кахання і дзеля любві,
І дзеля несмяротнага імя…
Бадлера!»



## СІМВОЛІКА

Быццё
жалезным долатам
расколата.
Пануе на зямлі
бедлам і вэрхал.
«Саюз» народы жне сярпом…
І молатам
іх па галовах
лупіць зверху.

«Мылга»
1947

* * *

Прысягаю
роднаму краю,
годнасцю дачкі яго
клянуся:
паміраю, ціха паміраю…
Паміраю —
толькі не здаюся!

Лагер «Элыген»
снежань 1947

## РОЗДУМ

О думак бура! Ўсё з напалам цігля!
Пераацэнка праваvых вярыг…
А праўда тая, —
што на катарзе спасцігла,
вось з гэтых,
снегавых і вечных, кніг.
Дзявочыя усмешкі-перламутры
цямнеюць тут і… сыплюцца ў снягі.

Адно:
душа
стае з гадамі…
мудрай,
подобнай да калымскае тайгі.

## СЯСТРЫ

Дум крылатых чароды ўначы
праляцяць над калымскай прасторай…
На лічыльніках хоць падлічы,
о сястра,
колькі я паспытала тут гора.

Што ёсць цяжкая праца,
і пекла «прынуд»,
дзесяць год… Уявіць хіба можаш?
Падлікуй,
колькі ў кожнай гадзіне мінут.
І на дзесяць гадоў перамножыш.

Як жа вымераць болю ў мінуце працэнт?
Спрэс жыццё стала гэтым працэнтам.
Калі ўсцяж над тобою — у дзірках брызент,
і ў паўсотню мороз — над брызентам.

Гэта ноч. Толькі ноч.
Ад відна да цямна.
Дзень працуй…
Дзень працуй, што ёсць сілы.
«Гэй, давай!», «Гэй, давай!» —
Толькі песня адна…
Толькі — пілы, сякеры… Сякеры і пілы…

Прорва думак, і болю, і гора гара.
І сама ты — у пене бяссілай.
На Радзіме ўсё гэтае ведай, сястра,
каб мяне анідзе не забыла.



## НАШЧАДКУ

Нашчадак мой,
уведай праўды спраты,
запомні, у які жывеш ты век:
то не жалеза шчэ —
замкі і краты…
Мацней жалеза —
вольны чалавек!

* * *

…Паміж молотам
і накавальняй…

*З прыказкі.*

На золатам багатай Дальняй
жыву — пяю,
жыву — люблю….
Між молатам і накавальняй
удары лёсу я цярплю.

## ПОМНІК
(Жартам)

Пастаўце
мне помнік у горадзе родным:
жанчына з граніту
сшытак вершаў сціскае ў руках…
Вось стаіць яна — горда і прама,
наручнікі пад нагамі.
Надпіс просты: «Дачцэ нашай — Лесі.
Яна пагарджала гадамі рэпрэсій».

Лагер «Эльген»
1947

## ЦІШЫНЯ

Ім, якія заўчасна пайшлі з жыцця, —
вялікім мучаніцам-лагерніцам Паўліне
Мельнікавай, Лялі Кларк, Асі Гудзь —
з болем у душы і любоўю прысвячаю

Над заснежанай далінай — цішыня.
А ва ўлонні той гаротнае зямлі
Бацькаўшчыны дочкі, як адна,
змардаваныя няволяй, паляглі.

Цішыня… І толькі голас не заціх
тых пакутнікаў збалелае зямлі.
І нямецкія аўчаркі рвалі іх,
і свае, ва уніформе, кабялі.

Паланіла дом бяда сярод начы.
Крык дзіцячы: «Мама, мамачка, куды?!»
Абяцала: «Я вярнуся, не крычы…» —
і не ведала, што пойдзе назаўжды.

Крык дзіцячы — і цяпер ён у вушах.
А надзеі промень — праўда, што святы…
Вось ляжаць яны з ільдзінкамі ў вачах,
у абдымках гэтай вечнай мерзлаты.

## СЛОВА Ў ДЗЕНЬ 9 МАЯ

Землякам маім прысвячаю

О людзі добрыя, такое
дзеля мяне, прашу, зрабіце:
заместа слоў «Быў перапынак» —
«Была на фронце» — напішыце.
Калі са смерцю — вочы ў вочы.
Калі
да мерзлаты прыкулі…
І лагерны мароз штоночы
са слёз маіх выкоўваў… кулі!
Я берагла Айчыне вернасць
і ў тым жыцці сваім кайданным.
Вы напішыце…
Хай паверaць…
І родны край.
І сябар даўні.

Лагер «Эльген»
1945

## ПРЫЗНАННЕ

І. А. Буніну

Замежная — сапраўдная Расія,
увысь, ушыр, углыб — усё яна!
Дзе талент з мудрай думкай —
там і сіла!
Расія —
ад Берліна да Харбіна.
Сыны Расіі…
У ліхіх трыццатых
вы, хто раднёй мне сёння
(не хлушу!),
Калі стаяла нада мною неба
ў кратах,
свяшчэннае святло ўлілі ў душу.
Свяшчэннае святло…
Калі наўкол разруха,
і мы каналі
ў кіпцюрах арла…
Час перамогі
Праўды і Святога Духа
вы набліжалі
над цвярдыняй зла.

## РУТА

ВАМ[1]

Будзем жывы — у садочку
мы пасадзім руту.
Ёй, чырвонай, у вяночку
зіхацець, як цуду.

Расці, рута, цвіці, рута,
як і нашы мары.
Прыйдзе час — мінецца смута
на зямным абшары.

Караніся, жывы корань,
набірайся сілы!
Ліхалецце, злое гора,
абміні край мілы!

Цвіці, рута, расці, рута,
да лістка лісточак.
Залячы ў душы той смутак,
што чарней ад ночак.

Наша рута не завяне
і парою сцюжнай.
Яна песняй людзям стане,
светлаю і мужнай.

Паквітайся буйным цветам,
рута, за пакуту…
Будзем жывы — усім светам
мы пасадзім руту!

[1] Украінскі паэт Васіль Андрэевіч Малагуша.



* * *

Душэўны боль,
як «сябар»,
абдымае, а памяць —
свежае дыханне спарыша…
Ледзь чутны стогн
мой слых паўсюль даймае…
І ведаю,
што стогне так душа.

## ЗВАРОТ ДА СЯБЕ

Валім лес, вайну нагадуючы…
Так,
на ёй ты — салдатам была.
Стогнуць, падаюць дрэвы, бядуючы.
Ліпкім болем крывавіць смала.
Сцяўшы зубы, трымай усмешку.
(Хоць і рана на левой назе!)
Сёння трэба —
　　　　　належыць! —
　　　　　　　　　　уласную сцежку
прабіць у тайзе.

* * *

Бяда агульная.
Яна усіх кранулася.
Планета
　　сутаргава крышыць рубяжы…
Зямлі баліць.
　　　　　　　І неба скаланулася
ад вероломства,
　　　　　　подласці,
　　　　　　　　　ілжы.

## АД ПЕРАСТВАРАЛЬНІЦЫ

Без мяне праўда майго народа будзе няпоўнай.

*Леся Беларуска*

Час вяртае са сваіх спратаў новыя цікавыя імёны. Невядомыя дасюль ці забытыя. Так сталася, што з далечы 1930–1940-х гадоў нам адкрылася імя рэпрэсаванай падчас сталінскіх гулагаў беларускай паэтэсы Ларысы Марозавай (Лесі Беларускі). Некалькі дзесяткаў вершаў паэтэсы, што ацалелі ў памяці яе сяброў, дайшлі да нас у выглядзе асобных радкоў, вобразаў, матываў і пераствораны мною ў 1997 годзе ў вершаваныя радкі, — сапраўдны падарунак беларускай паэзіі. Выказваю падзяку за дапамогу ў падрыхтоўцы публікацый Але Канапельцы і Васілю Малагушу.



# НЕВЯДОМАЯ З ДЭЛІ[1]

* * *

Занадта шмат жанчын у розных краінах
Размаўляюць на адной і той жа мове цішыні.
А мая бабуля заўсёды маўчала
І заўсёды з усім пагаджалася.
Толькі яе муж меў права
Гаварыць і быць пачутым.
Кажуць, што цяпер усё памянялася.
Прынамсі, я ніколі не маўчу, а бабуля думае.
Што я нават зашмат гавару.
Але ўсё часцей я задумваюся вось над чым:
Калі жанчына аддае сваю любоў,
І аддае, як гэта і павінна быць, — велікадушна,
То гэта прымаецца, як належнае;
Калі жанчына дзеліцца сваімі думкамі,
Шмат якія жанчыны, — міласэрна,
То гэта ўспрымаецца, як належнае.
Але калі жанчына змагаецца за моц і ўладу,
Што хацелі б рабіць многія з нас
(Нясмела альбо настойліва),
То да гэтага чамусьці ставяцца з недаверам.
(Але свабода, тая свабода, якая дае нам права
Гаварыць, — павінна існаваць!
Павінны быць моц і ўлада,
І найперш для таго, каб нас — пачулі!

[1] Верш быў прачытаны ў 1999 годзе першым Сакратаром Пасольства ЗША ў РБ Даянай Максей на Усебеларускім жаночым форуме «Жанчына. Планета. Будучыня», што праводзіўся ў Мінску Усебеларускім жаночым фондам святой Еўфрасінні Полацкай.

Але калі ўрэшце ў нас будзе і свабода, і моц,
То трэба дасягнуць яшчэ аднаго…
Трэба дасягнуць і таго,
Каб нас зразумелі!
Вось чаму мы намагаемся даваць слова тым,
Хто можа і ўмее гаварыць.
І такіх жанчын у розных краінах многа.
Але я ўвесь час намагаюся зразумець іншае…
зусім іншае.
Увесь гэты час, урэшце,
я хачу зразумець… цішыню.
Цішыню маўчання маёй бабулі.



# «НАД БЕРАГАМІ ВЕЧНАЕ РАКІ…»
## Пульсары перакладаў

*Барыс Алейнік*
*(Украіна)*

### БЛАСЛАВЕННЕ

Вясёлка ў асмужыным радыусе.
Сем колераў — нескарона.
Квеце-Еўропа, узрадуйся:
Ўзыходзіць навейшая зона!

З мірам і хлебам і ладам,
Громам зрываючы грым,
Блізка святое Элады
Вечны, з вітаннямі, Рым!

Квеце адзіны, не куплены,
Рукі, што крылы ўздымі,
Пяшчотна, як Бацька, з купельні
Дзяржаву маю — прымі!

Цудам каса намалёваная
З Кіеў — віецца! — Русі…
Скуль жа, сінеча-збядованая,
Нітачка ў гэтай касе?
О, запытайце, браты, ў яе…

Там,
З-пад святой сівізны, —
Позірк, доляй паранены…
Збітыя з неба званы.
Ойча, святыні спаганены!
Струшчаны долы — ушчэрць.
І, праз вякі заарканеную,
Мову — вядуць! На смерць!

Ды, з папялішчаў дыявала, —
Чорнай, святой, з караня,
Самаадроджаным яўленнем
Зноў паўстае — Яна.
Горам яе не акована,
Ў сэрцы не месціцца люць.
Спевам, ласкаваю моваю
Ўсіх тут адольвае люд.

Людзі, жывою хвілінаю
Браму — наросцеж — з дабром.
Перад маёй Украінаю,
Прад жыватворным Дняпром!
Род мой, табе — не зводзіцца…
Пчолы, гуртуйце раень!..
Ціха сама Багародзіца
Благаслаўляе яе…

*Ліна Кастэнка*
*(Украіна)*

* * *

Паслухаю свой дождж. Падкраўся і шуміць
Бляшаны гук вады, вясёлых кропель згода.
Яшчэ імгненне за імгненнем праляціць,
І раптам пазірну — а гэта ж год за годам!
А гэта ўжо вякі: нікому не ўзбрыло:
Ў туманнасцях душы ці Андрамеды ўпотай —
Я ў мантыях дажджу, празрыстая, як шкло,
Прыходжу да жывых, а ўспамінаю мёртвых.
Цалую ўсе лясы, дзе скрыпку благаслаўлю,
На ёй скрыпач калісь маю сыграў прысутнасць,
Я дрэва тут, я снег, я ўсё, што я люблю.
І, можа, гэтай ёсць мая святая сутнасць.



**ВАН ГОГ**

Добрай раніцы! З немай убогасцю!
Адзінота мая, ты маўчыш.
Цыклапічнаю аднавокасцю
неба хмура глядзіць на Парыж.
О пакута! Ты ходзіш па грані…
Учора быў я заможны ўладар,
а сягоння попел згарання
асядае на колераў жар.
Свет распяты на мёртвых мальбертах.
Немач фарбаў. Сухое радно.
Я — як помнік на могілках гэтых,
кіпарысы гараць нада мной.
Неба глуха набракла грамамі
Выгінаюцца пэндзляў харты.
Землятрусамі і бівакамі
паламаны гарам хрыбты.
Прамяніцца маё скляпенне.
Я пастух. Я тут дрэвы пасу.
У дня кішэнях,
залапленых цярпеннем,
я кулакі да смерці данясу!
Самавіты — несамавіты —
не Сезан — не Гаген — не Манэ, —
але як аплаціць тое мыта,
што ўва мне так багата мяне?!
Бажавольны[1]… Няўжо бажавольны?
Можа, й так… Пагаджаюся я.
Божа, вольны я… Божа, я — вольны!
Добрай ночы, Свабода мая!

[1] Вар'ят (укр.).

* * *

Асенні сум. Бярозкі грэюць нас.
І дзень-рязьбяр пачаў свае партрэты.
Я пра цябе ўжо думаю ўвесь час.
Але не трэба гаварыць аб гэтым.

Ты прыйдзеш зноў. Мы будзем зноў на вы.
Ці ж непаўторнасць верне нам сакрэты?
Ў маіх вачах свой боль пераплыві…
Але не трэба гаварыць аб гэтым.

Хай будзе так, як я сабе вялю,
Хай будуць сэрцы думкамі сагрэты,
Я вас люблю, о, як я вас люблю!
Але не трэба гаварыць аб гэтым.

## МАЦІ

Яна была красуня з Кацярынаўкі.
Расло ў яе ажно пяцёра нас.
Гасцінцаў купіць — кожнаму на грывенік.
Паліла печ у самы шары час.

Ў царкву хадзіла, як і ўсе, маліцца.
Свае збанкі сушыла дацямна.
Увішна ўсё спраўляла маладзіца…
І мела мрою дзіўную яна.

Быў страшны час! О, колькі душ ён страціў…
І хто ўжо ў стэпе тым не ваяваў!
Яна ж хацела, каб у нашай хаце
на столі неба хтось намаляваў.

Растрэлі — што?.. Не бачыла ніколі…
Чаго ўжо бацька ёй не абяцаў!
Ды — каб не бэлькі тыя… А на столі —
у зорках неба, неба без канца!



Уранку глянеш, як ляціш да Бога!
Да ночы ў стэпе полеш пакрысе.
Дзе б напытаць ёй маляра якога?
Аратыя ж ды сейбіты — усе.

Прыходзіў швагер, той, што жыў за выганам,
і маляваў, пакуль было відно.
Сказала маці: — Перастань, бо выганю.
Ў цябе, — сказала, — неба, як радно.

Мастак якісь прыбіўся ў год галодны,
каб тое неба зладзіць за харчы.
Ўмакнуў у фарбу пэндзаль багаўгодны,
на лаву стаў, адсунуў рагачы.

Ў яго і хмары выгнуліся ў золаце,
ўжо нават сонца пачынаў… Адно
сказала ціха маці: — Вы не зможаце.
Злязайце, — кажа, — іншае яно.

А ёй жа з мрояй тою і не спалася,
а ёй жа ў хаце гэтай — лебяда.
Ды неяк так — ці ўжо мастак не трапіўся.
Ўсё неяк так — то гора, то бяда.

І выцвіталі кветкі на прыполе,
і плакаў бацька, нешта абяцаў…
калі над ёю не было ўжо столі,
а толькі неба… ў зорках… без канца!

* * *

І ўжо смяецца продвесень: — Пара!
За Чорным Шляхам, за Вялікім Лугам —
гляджу: мой прадзед і пра-пра, пра-пра —
усе ідуць за часам, як за плугам.

За станам стан, за станам стан і стан,
за Чорным Шляхам, за Вялікім Лугам,
а ўжо яны ў тумане — як туман —
усе ідуць за часам, як за плугам.

Не зліцца з цяжкай вечнасці хадой! —
за Чорным Шляхам, за Вялікім Лугам.
Такой свавольнай, вольнай, маладой —
няўжо і я іду ўжо, як за плугам?!

Што заару? Які засею стан?
За Чорным Шляхам, за Вялікім Лугам.
Няўжо і я ў тумане — як туман —
і я іду за часам, як за плугам?..

## СКІФСКАЯ БАБА

Стаіш ты, баба, скіфская нязграба.
Каменны жах. А ў стэпе — кавыла.
Хіба ж ты баба, ну хіба ж ты баба?!
За сто вякоў дзіця не прывяла.
Было б што крэмень. Пыл бы знеслі пяты,
каменным громам вымасціўшы шлях.
Чаго смяешся? Космас нежанаты,
а ты дзявуеш, баба, ў палынах.
Няўжо дасюль ніхто не жаніхаўся,
хаця здаўна ў музеях твой партрэт.
Табе казацкі чэрап усміхаўся…
Ды ўсё мінула… Абнавіўся свет.
Ды ўсё мінула… Коні, гікі, стрэлы
і профіль хана з дзідамі павек.
Забудзь пра ўсё, ўсё тое застарэла.
Глядзі, нязграба: вось — дваццаты век.
А ты стаіш. Скрышыла ветрам рукі,
пасекла плечы. Можа, скажаш, не?



У цябе раслі б каменныя унукі.
Каменыя! Ты чуеш нас ці не?!
Вунь — самалёт. Прагрэс…
І ўсё ўжо праўда.
А ты стаіш, старэеш з году ў год.
О скіфскі прывід! Зноў рагоча баба,
маім пракляццем сціснуўшы жывот.

* * *

Стаіць у ружах залатых калыска.
Падворак веі мройныя падняў.
Таемны свет — здалёку альбо зблізку…
Пачатак ёсць. А слова йшчэ няма.

Дзівосны дым і хата адмысловая.
Яшчэ ніяк нічога не завуць.
І хмары не прывязаны да слова,
а проста так — плывуць сабе, плывуць.

Не кожны пальчык сам сабе — музыка.
А ты на свеце — уладар і госць.
Праменіць сонца ясным вокам звыкла…
Няма йшчэ слоў. Паэзія ўжо ёсць.

## ІМА СУМАК

Было на свеце племя — інкі.
Было на свеце — і няма.
Тых — да сцяны… І без замінкі.
А гэтых сціху, давідна.
Адны ўлагоджаны дарамі,
другія ўтоплены ў крыві.
І толькі храмы,
ўсюды храмы
узносяць грудзі з крапівы.

І толькі вецер,
вецер,
вецер…
І толькі сонца, сонца, сон…
Над літар выпетраным веццем
на кручы дзікай, як бізон.
І горад,
ўвінчаны ў магілы,
гібрыд валторны і ката,
напнецца нервамі тугімі
на гук свяшчэннага шчыта.
Удар… Яшчэ раз.
Бухне глуха
ў кубло чужынцаў і наброд.
Залітае асфальтам вуха
не знае імені: Народ.
Нашчадкі катаў, таўстасумы,
свяшчэнных рэк паўзучы пляж…
Ты дзе ўзялася, Іма Сумак?
І ў гэтых блазнаў камуфляж
як прараслі твае малітвы,
той грозны клёкат-пілігрым?
Ці племя, мёртвае для бітвы,
так помсціць голасам тваім?
Каб ён сапрана,
мецца, басам
на сто спатоленых актаў
стагнаў і біўся дзікім барсам,
ні ў кога ноты не пытаў.
Яму дарэчы опер сіла,
Ўрачысты хор малітваў-сноў,
а ён, магутны, махам крылаў
падыме ўсё, што хоча кроў!



Спявае смертная жанчынка…
А ў ёй — ці ведае сама? —
бяссмерцем плача племя інкаў,
якога так даўно няма.

## СУЧАСНАЯ БАРКАРОЛА

Адпачываю ад грымотных трас,
каменных сцен і рыфмаў недапетых.
Прыціхлы роздум б'ецца аб баркас,
няўрымслівы, нібы азоўскі ветрык.

Дзе перламутр прыбояў і пясок,
выходжу з хвалі, трапяткой і ласай…
Ды толькі ветру голас перасох,
плывуць пяскі ў глухі шкілет баркаса.

Імчыць дэльфін трывозе наўздагон,
цара марскога вынесшы карону.
Але баркас… Чаму разбіўся ён?
Яшчэ з вайны ці, можа, так, ад шторму…

Як тут павольна адлятае час!
Які вячэрні прысмак мацыёлы!
Пяскі і я. І вечнасць. І баркас.
І тыя, што не вернуцца ніколі.

* * *

Такі чужы
і раптам — немінучы.
Хімера хмар задушыць гарызонт.
Зямля ўдыхне глыбінна і пякуча
на вішняку настоены азон.
Праднавальнічна, даўка мне і млосна.

Ліловым чадам туманее бэз.
Гудуць лясы, рыпяць старыя кросны,
саткаўшы з неба ліўневы навес.
Лягла грымот шалёная дзясніца
на залатую мройнасць галавы.
Мне ўжо ніколі, мабыць, не дасніцца
сліпучы сполах спраглае крыві.
І зноў багі пагрожваюць грамамі,
і боль закуты ўзносіць на дыбы.
Няхай смакуюць пачуццё гурманы,
а ты стыхія — любіш, дык любі!
Люблю. Чужога. Раптам — немінучага.
Лаўлю плячамі прагны позірк воч.
Трымціць душа шчаслівa і засмучана,
ўся з бліскавіц саткана бурай ноч!

* * *

Патаемнаю думкай дзялюся,
успамін мяне даўні апек:
я — у сэрцы тваім застануся
на сягоння, на заўтра, навек.

Хай гады праплываюць, як рэкі, —
сотні ўражанняў, назваў, краін:
на сягоння, на заўтра, навекі
застанешся ты ў сэрцы маім.

І чаму так маўкліва і згодна
мы не змахваем слёзы з павек?
Ёсць агульнасць… У ёй ты — асобна!
І сягоння, і заўтра, й навек.



* * *

Ты зноў прыйшла, мая сівая муза.
Не бойся, я не пакладаю рук.
Плыве над светам восень, як мядуза,
і мокрым лісцем падае на брук.
А ты прыйшла ў сандаліках няўроку.
Падшыты ветрам плашчык — на плячы.
Ды як ты йшла праз непагадзь здалёку,
яшчэ й адна-адненькая ўначы?!
Ты дзе была, ў Сусвеце альбо ў Спарце?
Якіх стагоддзяў словы зацвілі?
І па якой неразгаданай карце
знаходзіш ты паэтаў на зямл?!
Ты ім дыктуеш долю, а не вершы.
Тваё чало — спакойней і ясней.
О, як я ўдзячна, што між шчаслівейшых,
між лепшых іх…
ты выбрала мяне.

## ПАСАЖ БОЛЮ

Мала ўсяго — яшчэ й сум гэты воўчы,
і тое людское штодня «улюлю»!
А мне пацярпець бы, а мне перамоўчаць,
аж покуль не згоркне слова «люблю».
У тых Ніягарах бруду і блуду —
а я перасілю пакуту сваю.
А я пераб'юся і перабуду.
А я пераплачу, перасмяю…
Перачакаю, пераждадаю
і тое спрадвечнае —
крыжам на двух.
А гэта — як стрэча з табой чужая,
а гэта, як выбух, — слова і рух.

Перанябачу, перанячую.
Перадажджыцца, перабалю.
А я пераднюю, пераначую.
А я неўзабаве пералюблю.
А я ў кашлатыя з’еду Карпаты
і тое каханне ў сэрцы здушу.
Зоры-стазоры,
ці ж вы тэлепаты?
Навошта глядзіце вось так у душу?!

* * *

О чарадзей!
За даллю вечароваю,
дзе спяць асфальтаў чорныя сланы,
уладна так, павольна вычароўваеш
мяне з трывогі, з ночы, з глыбіны.
І я іду. Іду, як заварожаная.
Блакітны сад над прорваю вяду.
Такая горкая, жыццём сваім здарожаная,
хістаюся, і ўсё-такі іду.
Што прынясу? Гаркоту адно, чуеш?
І боль палёў… І зоркі па начах…
Ты да пляча мяне прытуліш
бяссмертным рухам скрыпача.

**ЛЕЙТМАТЫЎ ШЧАСЦЯ**

Як страшна прызнацца: я шчаслівая.
Мінаюць гады, а ты любы мне, люб!
Трапічных пачуццяў хлынуць прылівы,
зямлі і неба шалёны шлюб.
Заснёнаю ўноч і табою амытай —
мяне загайдала насуперак дню.



Каўшамі самоты сплочана мыта
за ўсе неспадзеўкі і неруш агню.
Няшчасцяў маіх залатая ажына!
Душу напаткала хмялець і хмяліць!
О, я не Фауст. Я толькі жанчына.
І не пажадаю хвіліну спыніць.
Хвіліна, будзь! Адно не хвілінаю,
а цэлым жыццём: хваляй і трывож,
аж покуль мяне панясуць з калінаю
туды… ну, адкуль мы… Тады ўжо што ж…

* * *

Рыпучы снег. Празрыцца далячынь.
Мярэжа плечы ўтомныя згінае.
Свінцовы вецер. Ён зрывае сінь,
крывава сонцу голаў падцінае.
І пакацілі, пакацілі дні.
Няма лістоў і спрэс нямыя страты.
І ледзь таркнуцца ледзяной струны
Мае ў снягах чужых каардынаты.
Па самы комін хату замяло,
гудуць драты далёка і арганна.
Штовечара ты звоніш без «ало»,
і я маўчу, што гэтак мне пагана.
Штовечара ты звоніш без «ало»
і адплываеш казачна староннім.
Буксуе, ў дым запрэжана, сяло
па самы повень і па самы комін.
А ты ўсё клічаш, клічаш… А зіма.
Тут ні прыкмет, ні водгуку, ні следу.
Дзе я падзелася, што ўжо мяне няма
на ўсе чатыры безгалоссі свету.

Тулю твой голас пудка да шчакі
і не гукну, і не гукну ні разу.
Мой адрас быў заўсёды не такі.
Па той бок шчасця. Блізка пералазу.

* * *

Я вельмі цяжка Вамі адхварэла.
Было каханне — мроенне і сон, —
Далілаю падкралася нясмела,
а розум спаў, даверлівы Самсон.

Цяпер пара развітвацца нам. Будзень.
На белых вокнах мерзнуць міражы.
І як мы будзем, як цяпер мы будзем?!
Ўсё стала родным і такім чужым!

А казка дзён — была яна нядоўга.
Світальны сон пайшоў у забыццё.
Свіцяцца зоры над маёю доляю! —
Ўсё засталося — і на ўсё жыццё.

* * *

Хай будзе лёгка. Дотыкам пяра.
Хай будзе вечна. Згадкаю прасветлай.
Наш белы свет — як у бяроз кара,
па чорных днях пабелена між лета.

Ўжо снег пачаў кароткі першы вальс.
І восень сёння кашляла ўжо дымам.
Хай будзе горка. Згадкаю пра Вас.
Хай будзе светла. Згадкаю адзінай.



Хай не разбудзіць смутак тэлефон.
Няхай лісты зляцяць уніз лістотай.
Хай будзе лёгка… Сніўся толькі сон,
што нашу памяць ледзь кранула ўпотай.

* * *

Вачыма ты сказаў адно: люблю.
Душа трымала цяжкі свой экзамен.
Як горны звон сівога крышталю,
нясказанае перайшло ў маўчанне.

Жыццё даўно мінула той перон,
дзе адзінота — ў рупарах расстання.
Як многа слоў напісана пяром…
Нясказанае перайшло ў маўчанне.

Світалі ночы, вечарэла ў сне.
Нямала доля вызнала прызнанняў.
Як сонца, словы ўсходзілі ўва мне…
Нясказанае — і цяпер — маўчанне.

## БРЭЙГЕЛЬ. «ШЛЯХ НА ГАЛГОФУ»

Там вузенькаю не была сцяжына.
Народу гвалт парухаўся туды.
І плакала Марыя Магдаліна,
што не падаў ніхто яму вады.
Спяшалі коньмі. Ехалі вазамі.
Дванаццаць вёрст — усё ідуць, ідуць…
І Маці Божая заплакала слязамі —
ды памажыце ж крыж яму цягнуць!
Ці вы не людзі? Што за цудасія,
старцам даюць, падсаджваюць калек.

А тут ідзе, ну, добра, не Месія, —
дык чалавек жа проста… Чалавек!
Гурма гудзе і пнецца далей… Свішча!
Хтось нават падбадзёрвае: цярпі,
ўжо вунь Галгофа, вунь Чарапавішча! —
трашчалі пад нагамі чарапы.
Няўзнак і зброя… Усё змяце лавіна.
Бо што паробяць стражнікі гурме?!
І толькі ён, між хаосу, адзіны
свой крыж пакутны цягне на спіне.
І хоць бы хто! І што ім да слабога?
Паспець бы толькі месца захапіць,
бо лепей відна з пагарба крутога,
як ён канае, як ён хоча піць.
І ён упаў, счарнелы ад бяссілля…
Тады знайшлася добрая душа —
натомлены, вяртаўся з поля Сіман
і дапамог, хаця дамоў спяшаў…
Ну, вось і годзе! Кончылася справа!
Пайшлі дамоў і слугі, і віжы.
Вось парадокс, што плакаў тут Варава,
разбойнік, не распяты на крыжы.
Ці шкадаваў, ці ўспомніў пра Пілата,
ці праяснела ў цёмнай галаве:
што Божы Сын пры ўсіх жа, бач, распяты,
а ён, разбойнік — ён жа, бач, жыве!

* * *

Шукайце цэнзара ў сабе.
Ён там жыве. Дрымучае стварэнне.
Ён там сядзіць, як чорцік у трубе,
і ціха выдзяляе вам сумленне.



З сярэдзіны, патроху, не за раз
ён паздымае кожную іконку.
Так непрыкметна вас вымае — з вас,
што застаецца толькі абалонка.

* * *

Як холадна! Акацыя цвіце…
Стаіць, як люстра, над рудым асфальтам.
Самотнай зоркі кропелька — гусцей,
і электрычка ўскрыкнула кантральта.

Іду, як цень. Так ходзяць скрыпачы,
ускалыхнуўшы музыку садамі.
Ніхто не можа цудам памагчы:
каб, хоць на міг, а нам сустрэцца з Вамі.

І дзесьці ў Вас, у сэрцы, боль расце —
пакуты нашы вечныя, няйначай…
Як холадна! Акацыя цвіце.
Як холадна!.. Душа за Вамі плача.

## ТРАМПЛІН ДЛЯ СОСНАЎ І СНЯГОЎ

Такі ўжо снег… І крута, і пружынна!
Хаджу на лыжах, нібыта пінгвін.
Дзесяты раз, а падаю з трампліна.
Ідэя фікс: узяць і ўсё! — трамплін.
Ён быў судом. Ён быў крутой гарою.
Цягнуў магніт зямлі і адкрыцця.
Што раніцой здавалася гульнёю,
пад вечар стала справаю жыцця.
Узяць трамплін і з'ехаць, нібы Сольвейг.

Раскрыжавацца крыллем, як Ікар.
Дзеля сябе. І тых снягоў. Тых соснаў.
Дзеля таго, каб страх астыў, як жар.
Разбіцца… Што ж! Згарэць, як ерэтычка,
ў касцёр ангін падкінуць анальгін.
Час пачакае, пройдзе электрычка.
Ціішэй, імгненні… Я вазьму трамплін.
І я ўзяла. Так горда і прыродна.
Ва ўсёй хаўрусні выйграла пары.
О радасць строгая — узяць трамплін рэкордны.
Без публікі. Без прэмій. Без журы.

* * *

Чакаю дзень, калі сабе скажу:
Страфа нарэшце стала дасканалай.
Як тады, напэўна, затужу!
І захачу я, каб яна сканала.
І як тады спалохае дакор:
Ужо — вяршыня? Дзе ж мае дарогі?!
…Ён быў старым. Старым ён быў. Памёр.
Яму лізалі рукі эпілогі.
Прыснiў граніт. Свой жылісты партрэт,
Жалоба смерці плакала арганна.
Ён богам быў. І ён стварыў свой свет.
І адвярнуўся. Ўсё было пагана.
Блукалі рукі дзесьці на зубцах,
Цямнелі фрэскі перад прорвай хвілі.
Былі далоні ў ранах і рубцах —
Усё жыццё з каменнем гаварылі.
Ўжо неба ёсць, а столі ўсё няма.
На рыштаваннях задажджылі цені.

Цкавала знізу і раўла гурма.
Вагою пэндзля помсцілі сумненні.
А ён баяўся ўпасці на гурму.
Душылі смехам скіфы і этрускі.
І ён сарваўся. Не баліць яму.
Каменным быў — і разляцеўся ў друзкі.
І вось ляжыць, і некаму стуліць,
Бы ў базіліі, важкія павекі.
Пракляты сон! Прачнуцца б!.. Не баліць.
Закляла цела. І цяпер — навекі.
Нажыўся ён і ворагаў нажыў.
Яму было без году дзевяноста,
Калі сяброў дарэшты перажыў
І паміраў зажурана і проста.
Застылі вочы. Сцежачка слязы.
І толькі боль адзінай страты ў сэрцы:
«Ў мастацтве я спазнаў адно азы,
Адно азы! Няўжо вось так — памерці?»
Азы — не больш!
Той дзіўны чалавек…
Душа ўзлятала над мяжой трываласці.
Каб так тужыць, і каб на цэлы век —
Азы, не больш! Ні зерня дасканаласці.
О ты, сумленне доннае майстроў,
Далёкае ад навігацый Леты.
Быў цяжкі час… Цяпер з тваіх сяброў.
Усе майстры, ўсе мастакі, паэты.
Ўсе геніі… На вагі без красы
Кладуць шэдэўры у сваёй шчадроце.
Той, хто ў мастацтве знаў адно азы,
Быў Мікеланджэла Буанароці.

*   *   *

Не трэба думаць так мізэрна.
Ёсць і бяссмерце дзе-нідзе.
Хтось, перавеяны, як зерне,
у грунт паэзіі ўпадзе.
Што мастаку да ўзнагарод,
узнагародзіў лёс адвеку.
Калі ў табе ёсць твой народ,
тады і стаў ты чалавекам.

## АСТРАЛЬНЫ ВОЙК

Дабрыдзень вам! Забіты — у спіну,
я ачуняў у зорнай каруселі.
І ўсё, што мае на зямлі цану,
асыпалася тут, як імартэлі.
Там, на зямлі, штось падала, цвіло,
ружова-сіне радавала вока.
І мне вятры пазычылі крыло,
каб я зямлю убачыў хоць здалёку.
Я натаміўся жыць тут без душы.
Не знойдзеш нават, дзе запісваць строфы.
Арапы-продкі ўсе і гармашы[1]
ўва мне крычаць, каб хоць сагрэцца трохі.
Не знаю сам, які стары мой дух,
і не хачу ні вечнасці, ні славы.
Ў бяссмерці холадна. Мне трэба ў Пецярбург.
Убрацца ў цела і напіцца кавы.
Там, на стале, ляжыць пяро, бы ў сне,
Яно ляжыць, яно даўно не піша.
А мне пісаць бы вершы ўжо, а мне…

[1] Гармаш — артылерыст, майстар (гіст.).



Ды хоць — як вецер голлейка калыша.
Я ўстаць хачу на золку, на зары.
Быць з Наталі, чакаць лісты з Адэсы.
Хачу я волі, волі… А цары?
Я жыць хачу і дыхаць… А Дантэсы?
Я сто паэм ва ўяве закруціў,
а вось гляджу у вочы пісталету…
Ў бяссмерці холадна. І холадна ў жыцці.
О божа мой! Дзе ж дзецца мне, паэту?!

*   *   *

Зацішак. Прыцемак. Дзень залаты.
Плачуць і моляцца ружы-траянды.
Мо гэта я альбо хтось, альбо ты
там вунь сядзіць у куточку веранды.
Можа, чакае ці плача ў нудзе —
крокі пачуліся, рыпнула фортка.
Ўстане ён, можа, чалом прыпадзе
там, на верандзе, чалом да падворка.
Дзе ж тыя людзі, што ў хаце жылі?
Свет мой, якое тут гіне раздолле!
Смутак нашчадкаў — як танец пчалы,
танец пчалы да адвечнага поля.
Можа, ўсё гэтак праз тысячу лет —
буду разбуджанай вечнасцю ў генах,
тут на зямлі адшукаю свой след
роду прапродкаў у плачах-легендах!
Голас крыніцы, чаму ж ты замоўк?
Рукі шаўковіц, чаму ж вы закляклі?
Вокны забітыя, ржавы замок —
ржавы агонь завушніцы над клямкай.
Белы прытулак раз’ела слата.

Хто гэта квіліць у хаце начамі?
Можа, жыве там сама немата,
соўгае пустку у печ рагачамі?
Мо гэта боль наш, а можа, віна,
можа, бальзам на збалелыя душы —
згадка крыніцы і згадка акна,
згадка сцяжыны і дзікае грушы…

* * *

Выходжу ў сад, ён чорны і худы,
яму ўжо нават яблычак не сніцца.
Шаўковы шум лісцвянае хады
яму на згадку пакідае восень.

Я ў гэтым садзе вырасла, і ён
мяне пазнаў, хоць доўга прыглядаўся.
Ў кругазвароце нефатальных дзён
ён быў стары і зноўку абнаўляўся.

І запытаў: — Чаму ж ты не прыйшла
у іншы час, у час майго цвіцення?
А я сказала: — Ты ў мяне адзін
і ў гэты час, і ў іншы, і давеку.

І я прыйшла не церусіць рэнклод
і не рабіць з пладоў тваіх спарудку.
Чужыя ходзяць у пару шчадрот,
а я — ў пару твайго сівога смутку.

Вось гэта ўсё: правы і мой паклон.
Ужо знікала сонца за гарбамі —
сад шапацеў пашорхлымі губамі
свой развітальны, залаты ўжо сон…



* * *

Якая розніца, куды і хто пайшоў,
хто што сказаў… І рыфма ўжо гатова.
Паэзія — як свята, як любоў.
О, гэта не будзённая размова.

І не стракаты наш асартымент
метафар, слоў — для хцівасці нагода.
Паэзія?.. Я толькі інструмент,
з якога плачуць сны майго народа.

* * *

О, як цябе забыць пакутна?
Душа да краю дабрыла.
Такой дзівоснае атруты
я ані разу не піла.
Такой пяшчоты пры світанні,
такой спатоленай тугі,
такога войку у мучанні,
такой бязмежнасці кругі.
Такой азоранасці светлай,
такое спрагласці ў журбе.
Ці гэта вершы? Ці ўжо кветкі,
Што раптам кінуты табе?!

* * *

Маё каханне! Я перад табою.
Бяры мяне у свой шчаслівы сон.
Ды не зрабі слухмянаю рабою,
не ашукай крылатай долі плён.
Не дапусці, каб свет сышоўся клінам,
і не праспі, дзеля чаго жыву.

Ўзнясі, як дар, над шляхам тапаліным
старога сонца крэмень-булаву.
Не дай знарок заблытацца ў драбніцах,
не размяняй на перапрэлы жмых,
бо косці перавернуцца ў грабніцах
гаркава-гордых прадзедаў маіх.
Як і ў мяне, было і ў іх каханне,
ад страсці вочы засціла радно.
І іх хапалі за страмёны ўранні,
ды што паробіш — да варот адно.
А там, а там… Шалёны клёкат бою,
і да вясны, аж трэцяй, мечаў звон…
Маё каханне! Я перад табою.
Бяры мяне у свой шчаслівы сон.

* * *

Напіцца голасу твайго —
і захмялець пад ветрам тлуму,
напіцца радасці і суму,
шаленства дзіўнага таго.
Замерці, слухаць і не дыхаць,
знянацку думку перарваць,
маўчання гэтага бязвыхадзь
прыгожым жартам пераняць.
Нацягваць словы, як цянёты,
каб збіць знячэўку на ляту
неразгаданае самоты
пакутлівую немату.
Трымацца вольна й незалежна,
перамаўчаць: а хто ж каго?
І зноў балюча і бязмежна
так прагнуць голасу твайго!



## ЗОНЬКА

Маленькі хлопчык гнаў вярблюда,
то быў жыцця яго прэлюд.
Вярблюд даверлівы да люду
і ўжо ж цярплівы, як вярблюд.
Яго чамусьці звалі Зонька,
ён з экзатычных быў краін, —
птушыны грэбень гарызонту,
кірпаты босы бедуін.
Міраж памрэ, наступяць зазімкі.
Няма ў вас іншага цягла?
Замшэла стрэшка белай мазанкі,
пейзаж для пеўня і вала.
Гарбаты прывід, дзіва Азіі,
хімерны жоўты страхалюд.
Цвітуць бульбянішчаў аазісы, —
ідзе пад вербамі вярблюд.
Каля сабачых кодлаў ходка
брыдзе, аж дыбіцца пясок.
Перапалохана жаробка
рванецца, выверне вазок.
Чаго, калега, так лякаешся?
Ён добры, Зонька, ён дзівак.
Яму ў калена паштурхаешся,
дык ён і ляжа. Бівуак.
Хлапчына ўткнецца абаранчакам
у поўсць, бы ў цёплую нару.
Малюе сон вясёлым квачыкам
то Самарканд, то Бухару.
…Пад вечар воўк з лагва выходзіць.
Мацне вачыма небакрай.
Вярблюд высокі — не даскочыць,
і дужы… Гэткіх не чапай!

Ваўчына падае на лапы,
ў яго свой план у галаве.
Паўзе на чэраве, патлаты,
скавыча, кубліцца ў траве.
Ды так балесна і ласкава
сагне хрыбціну хіжы звер.
Вярблюду, ведама, цікава —
а што ж там творыцца цяпер?!
Ён падыходзіць блізка-блізка,
і шыю выцягнуў… і зноў…
Рванецца воўк, ашчэрам блісне,
ажно засвішча з горла кроў!
…О стэп наш, стэп… Асцё ды росы.
Вясёлка ў лета на брыве.
Маленькі хлопчык стаў дарослым.
А воўк — качаецца ў траве…

*Раман Лубкіўскі*
*(Украіна)*

**МУЗЫКА**

Ўсё гэта музыка, і музыка, і музыка
Старога шарлатана цвыркуна.
Ці то галінку надламалі хрусткую,
Ці то зляцеў пялёстак па-над пусткаю
Каля твайго адкрытага акна.
Ці, можа, вецер шарудзіць афішамі,
Як чорны лебедзь, ветразь адкрыляў.
А мы сябе надзеямі суцішылі,
А мы сябе надзеямі суцішылі,
Што гэты свет яшчэ не адпалаў.
А мы сябе парадуем раскошаю,
Такое шчасце — мроі пра запас.



У белай плыні, у вясёлцы зрошанай
Спыніўся час? Плыве у вальсе час?
Ці ўсё прайшло, ці, можа,
ўсё прыснілася?..
Адкуль? Адтуль, дзе поўня і віры,
Перакатполем ціха ракацілася
Світання трэль, віяланчэль зары.
Ды годзе! Кінем, кінемся,
пакінем мы,
Каб недарэчна болей не пытаць,
Каб зноў ляцець, абняцца толькі крыламі,
Над сінімі палянамі світаць.
Прыглухне сум над тумановай стромаю,
Каб ты заснула на маім крыле.
Як соладка баліць, баліць плячо маё.
Як соладка баліць, баліць плячо маё.
І журавы трывожныя ў імгле.
Яны ідуць кругамі надламанымі,
Яны ўжо бачаць іней на расе,
Яны ўжо чуюць штормы над ліманамі,
На прыдунайскай мройлівай касе.
Пара, пара нам развітацца з плёсамі,
А ты ў адказ: не час і не пара!
Абвей мяне, абвей сваімі
вёснамі,
Абвей мяне, абвей сваімі вёснамі,
Спалі ў прачыстым водбліску пяра,
Каб я калісьці уваскрос
над пусткаю
І зноў пражыў пакутнае спаўна,
Каб зноўку музыка, і музыка,
і музыка
Мяне вадзіла да твайго акна.

Дзе ты жывеш. Дзе ёсць галінка хрусткая,
Дзе ты — ці спіш? Не спіш
там… давідна…
Дзе толькі музыка, і музыка, і музыка…
Я падкупіў старога цвыркуна!

*Наталля Смаляна*
*(Украіна)*

* * *

Яго няма… Той дзень яшчэ прыкуты
Да гарызонту, злітага з вякамі…
Між намі — вечнасць. Паміж намі — будні.
І той сустрэчы незабыўны камень,
На п'едэстал якога — узвялічу
Палын расстання
і палын расплаты…
Чаму, скажы, я дзень той сэрцам клічу
У каляндар надзей маіх
і страты?
Калі ж няўзнак на папараць далоняў,
Як першы снег, зляціць тваё каханне
І прапячэ на іх дарогу долі
(Як сонца дні арэ да небакраю,
Як крояць хлеб таму,
хто паміраe) —
Той дзень сустрэчы,
першай з несустрэч,
І на жыццё цяпер не прамяняю!
Святлей пакута, калі так чакаю
Наш першы дзень у прорве
несустрэч…



# ЗМЕСТ

**У водбліску свячы**

## З роду Еўфрасінні: Партрэты



## БАЛАДЫ ПАМЯЦІ



## ПЕРАСТВАРЭННІ

*Леся Беларуска*

**Малітва да Калымы**



**Невядомая з Дэлі**



**«Над берагамі вечнае ракі…»: Пульсары перакладаў**

*Барыс Алейнік (Украіна)*



*Ліна Кастэнка (Украіна)*